МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

№5 (42) ТРАВЕНЬ 2005

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## ДА ЧАЦВЁРТАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ ЗАСТАЛОСЯ 1,5 МЕСЯЦА



АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА: З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

**Хведар Нюнька, старшыня Таварыства беларускай культуры Літвы (Вільня, Літва):**



"У ліпені маюцца сабрацца беларусы ўсяго свету ў нашай сталіцы Мінску. Гэта вялікая падзея, і ўсе мы рыхтуемся там сустрэцца, выказаць свае думкі. Напэўна, кожны будзе мець, што сказаць. Думаю, што павінны прыехаць усе патрыёты, і нашы суайчыннікі і з далёкага замежжа таксама. Калі ўлады не перашкодзяць, то гэтая падзея, думаю, павінна прайсці на добрым узроўні. Спачуваю і разумею тую вялікую працу, якую зараз выконвае невялікі калектыў Згуртавання "Бацькаўшчына", таму ад усяго сэрца жадаю ім поспехаў і ведаю, што праблемаў ёсць шмат – і фінансавыя, і арганізацыйныя.

Будзе таксама прыемна паслухаць прадстаўнікоў беларускага боку. Мы пакуль не атрымалі дакладную праграму, але хочацца паслухаць нашых паважаных вялікіх патрыётаў Ніла Гілевіча, Радзіма Гарэцкага, Генадзя Бураўкіна і цэлы шэраг іншых паважаных людзей. Калі мне будзе дадзена слова, я хацеў бы сказаць пра праблемы культуры як у Беларусі, так і ў нас, у Літве. Ёсць шмат нагодаў для сустрэчы і шмат тэмаў для размовы, таму я з радасцю чакаю сустрэчы".

**Яўген Вапа, галоўны рэдактар тыднёвіка "Ніва" (Беласток, Польшча):**



"З'езды беларусаў свету, якія ладзіць "Бацькаўшчына", – гэта тая падзея, якую чакаюць беларусы замежжа, гэта, вядома, нагода для сустрэчы і нейкі шанс на развіццё нашай дзейнасці. Але ёсць шмат складанасцяў, і самае горшае, што такі З'езд, як бачым, у дачыненні да некаторых людзей у гэтым годзе можа быць праблемай, бо справа ў тым, ці дадуць улады ўсім жадаючым прыехаць візы. Большасць эміграцыі – гэта людзі дэмакратычных поглядаў, беларускія нацыянальныя меншасці свету ў большасці выступаюць за каштоўнасці незалежнай дэмакратычнай Беларусі, і таму ўзнікае шмат сумненняў і пытанняў – ці ўсе жадаючыя асобы атрымаюць візы. Гэта магу сцвярджаць на сваім асабістым выпадку. З такім пытаннем да мяне ўжо звяртаюцца і звоняць – ці ўсе атрымаюць візы. Таму чакаем адказу з боку ўраду Беларусі".

**Алег Рудакоў, старшыня Іркуцкага таварыства беларуска культуры імя Я.Чэрскага (Іркуцк, Расія):**



"Мы ў Іркуцку пакрысе гуртуем беларусаў вакол сябе, мы ствараем дзіцячыя клубы і гэтак далей, але ўсё роўна, калі ты ведаеш, што ёсць падобныя арганізацыі і ў іншых краінах, у іншых гарадах, гэта вельмі натхняе, дае дадатковую моц працаваць. Таму вельмі цудоўна, што ў нас ёсць Згуртаванне "Бацькаўшчына", ёсць бюлетэнь "Беларусы ў свеце", дзе друкуецца інфармацыя пра дзейнасць беларускіх суполак у свеце, і вельмі добра, што мы раз на чатыры гады маем магчымасць збірацца на агульны З'езд. Я спадзяюся, што на З'езд прыедуць мае маладыя намеснікі, каб яны атрымалі вялікі запал рабіць далей нашу справу. З'езд неабходны для таго, каб мы маглі збірацца разам, каб мы маглі раіцца адзін з другім, распавядаць пра свае поспехі і цяжкасці, абменьвацца інфармацыяй".

НАВІНЫ МГА «ЗБС «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

## Пасяджэнне Рабочай групы

13 траўня адбылося чарговае пасяджэнне Рабочай групы па падрыхтоўцы Чацвёртага з'езда беларусаў свету, якое было прымеркавана разгляду праектаў выніковых дакументаў Чацвёртага з'езда беларусаў свету. Рабочая група разгледзіла прапанаваныя праекты, выказала свае заўвагі. Было вырашана частку дакументаў накіраваць на дапрацоўку.

Загадчык арганізацыйнага аддзела Ніна Шыдлоўская праінфармавала прысутных аб колькасці прадстаўнікоў беларускай дыяспары, якія пацвердзілі свой удзел у з'ездзе, а таксама аб тым, што актыўна паступаюць заяўкі на выступленні на форуме.

Разглядаліся пытанні па арэндзе памяшкання для правядзення З'езда, арганізацыяй культурнай праграмы і шмат іншых, не менш важных, пытанняў па падрыхтоўцы Чацвёртага з'езда.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Інтэрнэт-бібліятэка на сайце МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

На сайце МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" (**www.zbsb.org**) змешчаныя тэксты дзвюх кніг, створаных у Лондане: зборнік "Роля беларускай дыяспары ў захаваньні й разьвіцьці беларускай культуры" і біяграфія "Біскуп Чэслаў Сіповіч: Сьвятар і беларус", напісаная а. Аляксандрам Надсанам. Абедзве кнігі выйшлі ў мінулым годзе ў Мінску і прадаюцца праз незалежных распаўсюджвальнікаў. Кнігу айца А.Надсана можна замовіць з Скарынаўскай бібліятэкі (**library@skaryna.org** J12 + кошт перасылкі).

*Паводле www.belarusians.co.uk*

## Нам пішуць

Ад імя беларускай дыяспары ва Узбекістане, ад Савета БКЦ "Світанак", і ад мяне асабіста, дазвольце павіншаваць Вас і ўсіх суайчыннікаў з 60-годдзем перамогі ў Вялікай айчыннай вайне. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у працы, умацавання сувязяў з усімі народамі нашай планеты.

Беларуская дыяспара, якая жыве ў Рэспубліцы Узбекістан, свята беражэ і падтрымлівае свае традыцыі, культуру, фальклор і звычаі. На працягу 12 гадоў з дня ўтварэння БКЦ "Світанак" наша дыяспара актыўна ўдзельнічае ва ўсіх мерапрыемствах, якія ладзяцца ўсімі культурнымі цэнтрамі, што ўваходзяць у склад Інтэрнацыянальнага Культурнага Цэнтра ў г. Ташкенце.

Дзякуючы Вашаму інфармацыйнаму бюлетэню мы маем магчымасць даведвацца пра замежную беларускую дыяспару, а таксама пра падзеі і знамянальныя даты нашай гістарычнай Радзімы. Мы ўдзячныя Вам за тое, што Вы памятаеце пра тую дыяспару, што пражывае на тэрыторыі Рэспублікі Узбекістан.

З павагай да Вас,

*Лілія Белазёрава*

## Аўстрыя

25 сакавіка 2005 г. у Аўстрыі было створана Беларуска-Аўстрыйскае Задзіночанне, першым мерапрыемствам якога стала актыўная падтрымка беларускай каманды падчас удзелу ў Чэмпіянаце свету па хакеі, што праходзіў у Аўстрыі ў пачатку траўня 2005 г.

Распавядае Ляна Бурцава, старшыня задзіночання: "Сябры Беларуска-Аўстрыйскага Задзіночання і Задзіночання Беларускае Моладзі Замежжа прыйшлі "пахварэць" за беларускую каманду і падтрымаць Беларусь і беларусаў нацыянальнымі сцягамі і плакатамі.

Сцягі выклікалі ўвагу замежнікаў, якія падчас перапынкаў падыходзілі да беларусаў і прасілі распавесці пра сцяг. Высветлілася, што сярод замежнікаў ёсць шмат неабыякавых да сітуацыі ў Беларусі. Асаблівым імпэтам адзначыліся заўзятары са Славаччыны, якія падчас гульні Беларусі з Расіяй падтрымлівалі Беларусь і махалі бела-чырвона-белымі сцягамі. Не абышлося і без інцыдэнтаў, калі адзін з прадстаўнікоў "афіцыйнага" Мінска зняў бела-чырвона-белы сцяг з трыбуны. Што, аднак, не перашкодзіла заўзятарам вярнуць сцяг на месца і далей падтрымліваць беларускую каманду.

Гаспадары чэмпіянату запрасілі некалькі дзяўчынак-мастачак размалёўваць твары жадаючых колерамі нацыянальных сцягаў. Некалькі беларускіх заўзятараў скарысталіся з магчымасці і папрасілі намаляваць беларускія бела-чырвона-белыя сцяжкі на шчоках. Наколькі ж мы былі прыемна здзіўленыя, калі праз пару дзён на гульні Беларусі з Аўстрыяй усе дзяўчынкі-мастачкі з уласнае ініцыятывы намалявалі сабе беларускія сцяжкі на шчочках.

Выдатная гульня Беларусі з адным з фаварытаў хакейнае лігі — камандай Славакіі, нягледзячы на паразу Беларусі з лікам 2:1, дала надзею на далейшыя перамогі Беларусі ў гульнях з Аўстрыяй і Расіяй. Кіраўнік беларускае каманды Слава Кісялёў запэўніў, што каманда Беларусі падрыхтавала для апанентаў сюрпрыз, і так яно і атрымалася: Беларусь перамагла Аўстрыю з сенсацыйным лікам 5:0, хаця гэтым разам і не адолела Расію.

Хаця Беларусь і не трапіла ў фінал чэмпіянату, плён усё ж быў: выдатная гульня беларускае каманды ўзняла прэстыж Беларусі ў вачах супольнасці, а сябры беларускае суполкі мелі магчымасць разам падтрымаць сваю краіну і проста добра пабавіць час".

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



*На здымку ўнізе: беларускія заўзятары на матчы*

## Амстэрдам, Галандыя

7 траўня, у дзень Жыровіцкае іконы Божае Маці, вернікі Беларускае парафіі Уваскрасення Хрыстовага здзейснілі пілігрымку ў Амстэрдам на 7-ы міжнародны Дзень Малітвы для ўшанавання Багародзіцы — Уладаркі ўсіх народаў.

Беларускі бела-чырвона-белы сцяг ізноў лунаў у часе працэсіі Усіх Народаў і вернікі БГКЦ маліліся з вернікамі іншых народаў і іншых хрысціянскіх канфесій. У часе святкаванняў уладыка Хуры пасвяціў ікону Жыровіцкае Маці Божае, якую наша парафія атрымала ў дар ад грэка-каталікоў Віцебска, і зараз адмыслова ўзялі з сабой на ўрачыстасць у Амстэрдам. Цудоўны абраз Маці Божае будзе адкрыты для ўшанавання ў Беларускай царкве ў Антверпене.

*www.razam.org*

## Ландсхут, Германія

7 траўня з 13 да 15 гадзінаў у горадзе Ландсхут блізу Мюнхена Звяз беларусаў Нямеччыны ладзіў пікет з нагоды шостай гадавіны знікнення Юрыя Захаранкі. Пікет быў дазволены гарадскімі ўладамі Ландсхута. Пікетоўшчыкі трымалі плакаты. Арганізатар пікета, палітычны ўцякач з Гомеля, Яўген Мурашка сказаў: "Мы памятаем усё дрэннае і добрае, што было ў Беларусі".

*Радыё "Свабода". 2005. 7 траўня*

## Нью-Ёрк, ЗША

Ужо некалькі месяцаў, як сайт беларускай амерыканскай газеты "Беларус" (www.bielarus.org) значна ўдасканаліў свой выгляд і структуру. Паводле лічыльніка Акавіты, усталяванага на сайце, агульная колькасць наведвальнікаў сайта газеты (з часу з'яўлення лічыльніка) перавысіла 10 000 чалавек. Дзесяцітысячны наведвальнік зайшоў на сайт 10 траўня з Канады. На гэты момант сярэдняя колькасць наведвальнікаў — 26 за дзень.

Часцей за ўсё сайт наведваюць карыстальнікі з ЗША (40%) і Беларусі (23%). Наогул, Акавіта зарэгістравала наведвальнікаў з 32 краінаў. У іх ліку і такія экзатычныя, як Бразілія, Новая Зеландыя, Кітай, Сінгапур і Перу. Паўсюль у свеце ёсць беларусы!

Да таго ж на сайце з'явілася новая старонка – "МАЛАДЗЁВАЯ БАЧЫНА. Раздзел для моладзі", дзе падаецца адрас адказных за маладзёвую бачыну – moladz_bielarus@tut.by Адміністрацыя сайта запрашае маладых аўтараў дасылаць свае артыкулы!

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Ліепая, Латвія

Ліепайчане зноў убачылі "Пралеску" – беларускую старонку ў мясцовай газеце "Kurzemes vards" ("Слова Курзэме"). Тут распавядаецца аб фестывалі "Разам гучым, разам можам", у якім актыўны ўдзел прымала мясцовая беларуская суполка "Мара" са сваім вакальным гуртом "Паўлінка". Аб тым, як рыхтуюцца да паездкі ў Рыгу на творчую сустрэчу са старшынёй Саюза кампазітараў Беларусі Ігарам Лучанком. Ёсць тут і традыцыйныя весткі з Радзімы.

Вельмі цікавы нарыс пра зямляка – ліепайчаніна Васіля Мікалаевіча Яршова. Васіль Мікалаевіч – канцэртмайстар добра вядомага ансамбля народнай песні "Вольніца".

Асабліва ўразіла невялікая занатоўка пад рубрыкай "Дабрыня". У ёй расказваецца аб тым, што бібліятэка "Мары" папоўнілася новымі кнігамі: "Падаравала гэта багацце суполцы вельмі сціплая жанчына, наша беларуска, якая вельмі прасіла не называць публічна яе прозвішча. І мы яе разумеем: добрыя словы робяцца не для рэкламы. Яны ідуць ад сэрца".

А мне стала шкада, што не даведаюцца прозвішча жанчыны. Добрыя справы абавязкова павінны мець імя. Таму з задавальненнем называю прозвішча сваёй землячкі, намесніка старшыні беларускай суполкі "Мара" Валянціны Грыбоўскай. Гэта менавіта дзякуючы Валянціне штомесяц у горадзе Ліепаі на ўзбярэжжы Балтыкі з'яўляецца беларуская "Пралеска".

*Таццяна Касуха*

## Лімбажы, Латвія

У музеі горада Лімбажы адбылося адкрыццё выставы твораў сяброў Латвійскай суполкі Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар". Выстава адбылася дзякуючы падтрымцы Фонда Грамадскай Інтэграцыі і Еўразвяза PHARE праекта "Музеі – грамадству. Стварэнне сеткі мультыкультурных музеяў у Відзэмэ".

Творы беларускіх мастакоў Алены Раманенка, Алены Лаўрыновіч, Ганны Пейпіні, Васіля Малышчыца, Вячкі Целеша і Анатоля Ермаковіча, выкананыя ў тэхніках алейнага жывапісу, пастэлі і шаўкаграфіі склалі экспазіцыю выставы, якая засведчыла мясцовым жыхарам, што ў Латвіі існуе не толькі латышскае, расійскае, але і беларускае мастацтва і культура.

У горадзе і раёне людзі не маюць этнічных праблемаў, бо ўсе добра валодаюць латышскай мовай і любяць сваю родную, захоўваюць нацыянальныя традыцыі свайго народа. У гэтым можна было пераканацца падчас адкрыцця выставы "Маю Гонар", на якую прыйшлі вучні мясцовых сярэдняй і мастацкай школ і

➲

жыхары горада. Каб больш адчувалася прысутнасць захаваных нацыянальных традыцый і любоў да іх, побач з творамі жывапісу экспанавалася выстава фотаздымкаў пра Беларусь, Малдову і Азербайджан. Дапоўніла ўсё гэта застолле, на якім мастакі і прысутныя частаваліся пловам, далмой і лавашам, прыгатаванымі мясцовай азербайджанскай сям'ёй Місіравых. А беларуска-малдаўская сям'я Станкевічаў прыгатавала беларускія дранікі са шкваркамі, малдаўскае салодкае віно, мамалыгу і іншыя нацыянальныя стравы.

Пра выставу беларускіх мастакоў у Лімбажы інфармавалі мясцовае тэлебачанне і радыё і газета "Auseklis".

*Вячка Целеш,*
*старшыня Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар"*

## Вільня, Літва

У суботу 30 красавіка ў Таварыстве беларускай культуры ў Літве адбылася імпрэза, прысвечаная 19 гадавіне Чарнобыльскай аварыі. Сябра рады Андрусь Старавойтаў, які знаходзіўся ў часе аварыі ў небяспечнай зоне радыяцыі, распавёў пра злачынства ўладаў, што не папярэдзілі насельніцтва аб страшных наступствах радыяцыі; аб масавых захворваннях і смерці людзей, аб ненармальнасцях развіцця раслін і жывёл.

Павел Саўчанка распавёў пра жыццёвы шлях беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча Сымона Рак-Міхайлоўскага – ахвяры бальшавіцкага рэжыму. Пра круглы стол на тэму "Эканамічныя аспекты пашырэння Еўразвяза і становішча на Беларусі", арганізаванага ЗБС "Бацькаўшчына", распавёў удзельнік круглага стала ад Літвы Йонас Лаўрынавічус. Старшыня ТБМ Віленскага краю Юры Гіль даў інфармацыю аб падрыхтоўцы ў Свіранах да 165-х угодкаў нараджэння паэта Францішка Багушэвіча – абаронцы беларускай мовы і ўдзельніка паўстання 1863 года.

Напрыканцы была паказана дакументальная стужка аб сустрэчы ў 1997 г. у Вільні былога камандзіра Беларускага эскадрона ў Наваградку Барыса Рагулі, памерлага 22 красавіка г.г. у Канадзе. На сустрэчу са сваім камандзірам прыехалі былыя байцы эскадрона: Уладзімір Сіўко, Мікола Рулінскі, Кастусь Шышэя і інш. Людзі з вялікай цікавасцю глядзелі і слухалі беларускіх герояў, якія са зброяй у руках абаранялі Беларусь. Вырашана, што кожную апошнюю суботу месяца ТБК будзе ладзіць імпрэзы, прысвечаныя падзеям у гісторыі Беларусі і відным грамадскім і палітычным дзеячам.

*Хведар Нюнька,*
*старшыня ТБК у Літве*

## Бельск-Падляшскі, Польшча

13 мая 2005 г. у Бельску-Падляшскім адбыўся 32-гі агульнапольскі конкурс "Беларуская песня" сярод вучняў пачатковых школ і гімназій, галоўным арганізатарам якога з'явілася Беларускае грамадска-культурнае таварыства. У гэтым годзе ў конкурсе прыняло ўдзел звыш 50 калектываў і выканаўцаў з розных школ і гімназій Падляшша. На мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі мясцовых органаў самакіравання, адзела адукацыі, рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі, бацькі.

*"Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча".*
*2005.16 траўня*

## Варшава, Польшча

У Варшаве адбыўся Еўрапейскі Шуманаўскі Парад. А 13 гадзіне шматтысячная калона рушыла па вуліцы Маршалкоўскай пад Палац Культуры і Навукі, дзе адбыліся галоўныя ўрачыстасці. Немагчыма было не заўважыць дзесяткі беларускіх сцягоў, якія расцягнуліся па ўсёй кіламетровай калоне. Сярод беларускай групы ўдзельнікаў параду былі беларусы з Варшавы, Мінска, вучні Беларускага Ліцэю і пераможцы ўсебеларускага конкурсу "Што я ведаю пра Еўропу", а з платформы, якая была размешчана на грузавіку, дэманстрантаў падтрымлівалі беларускія гурты "Сцяна" і "Тарпач". Прысутнасць беларусаў была настолькі заўважальная, што бела-чырвона-белыя сцягі можна было пабачыць на найвышэйшым будынку Варшавы – Палацы Культуры і Навукі. Вяртаючыся праз зялёны парк Палаца Культуры і Навукі, на прыступках якога працягваўся святочны канцэрт, адчувалася атмасфера Мінска пачатку 90-х гадоў: навокал беларуская мова, нашы сцягі, вясёлая моладзь і надзея на перамены.

*"Беларуская ініцыятыва".*
*2005. 14 траўня*

*На здымку: падчас Параду*



## Прага, Чэхія

Па запрашэнні Беларускага цэнтра ў Празе знаходзіўся вядомы праваабаронца Алесь Бяляцкі. Алесь Бяляцкі, заснавальнік і кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна-96", удзельнічаў у фестывалі дакументальных фільмаў "Адзіны свет". Ён з'яўляўся адным з сяброў журы імя Рудольфа Вярбы, што кожны год складаецца з людзей, якія вылучыліся сваім унёскам у барацьбу за правы чалавека. Акрамя ўдзелу ў журы А.Бяляцкі таксама правёў шэраг сустрэч у Міністэрстве замежных спраў, з чэшскімі палітыкамі ды з партнёрамі з недзяржаўнага сектара.

*"Беларускі Цэнтр у Празе".*
*2005. 8 траўня*



## Запісы. Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва

Пабачыў свет чарговы 28 нумар "Запісаў", што выдаецца Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва ў ЗША. Новы нумар штогодніка прысвечаны дырэктару нью-ёркскага Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва Вітаўту Кіпелю.

Друкуюцца ўспаміны-абразкі пра сп. Вітаўта У.Арлова, Т.Бэрда, Я.Запрудніка, А.Мальдзіса, Г.Сагановіча, Ю.Туронка, З.Шыбекі. Змешчана бібліяграфія твораў В.Кіпеля – кнігі, артыкулы, рэцэнзіі (460 пазіцый).

У раздзеле "Тэксты" – артыкулы пра Уладзіміра Дубоўку, Восіпа Арлоўскага і яго кнігу "Беларускія народныя расказы". Артыкулы пра БАПЦ, БЦР, мовазнаўчую канферэнцыю 1942 г. Раздзел "Літаратура" прадстаўлены паэзіяй Я.Золака, Зніча, зацемкамі Я.Юхнаўца.

Сярод дакументаў – ліст жонкі Алеся Салаўя, які праясняе прычыны дэпрэсіі паэта ў Аўстраліі. Своеасаблівая сенсацыя – факсіміле справаздачы амерыканскага разведчыка аб "вандроўцы" ў Беларусь у 1948-1949 гг. і побыце ў беларускіх партызан.

*"Наша Ніва". 2005. 29 крас.*

## "Лісты з-пад коўдры"

Першая беларускамоўная кніга вершаў з ініцыятывы Асацыяцыі ўкраінскіх пісьменнікаў і пры фінансавай падтрымцы Адэскай абласной дзяржаўнай адміністрацыі выйшла днямі ў кіеўскім выдавецтве "Факт". Аматарам паэзіі ва Украіне ўжо знаёмае імя беларускага паэта Андрэя Хадановіча – тры гады таму там выйшла ягоная першая кніга "Лісты з-пад коўдры". Але тады гэта былі пераклады.

Кніга Андрэя Хадановіча "From Belarus with Love" выдадзеная ў Кіеве ў серыі "Зона Авідыя" – першы такі прэцэдэнт у гісторыі айчыннае літаратуры, калі беларускамоўныя творы прызначаныя для замежных чытачоў. За мяжой выдаваліся і выдаюцца беларускія кнігі, але гэта выданні, якія распаўсюджваюцца ў беларускамоўных асяродках альбо сярод навукоўцаў-беларусістаў. Як прыклады можна назваць Беласточчыну ў Польшчы ці Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку. Што ж да росту папулярнасці беларускіх аўтараў ва Украіне, то можна яшчэ дадаць, што сёлета там запланаванае выданне кнігаў выбраных твораў па-украінску Васіля Быкава і Уладзіміра Арлова.

*Радыё "Свабода". 2005. 13 траўня*

**Мінск наведаў знаходзіцца старшыня Іркуцкага Таварыства беларускай культуры Алег Рудакоў. Ён завітаў на сядзібу МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і распавёў пра грамадскую, творчую і навуковую дзейнасць свайго Таварыства. Прапануоваем чытачам пазнаёміцца з гэтай адной з самых актыўных беларускіх арганізацый Расіі.**




2 красавіка, у дзевяты раз, мы правялі Гуканне вясны. Гэтае мерапрыемства адносіцца да штогадовых абавязковых для нас: мы ладзім Каляды, Гуканне, Купалле, восеньскія Дзяды. Гуканне вясны ў гэтым годзе мы правялі ў новым стылі ў адной з беларускіх вёсак Іркуцкай вобласці (беларускіх перасяленцаў пачатку XX ст.) – у вёсцы Лідзінск. Гэта вельмі цікавая ў этнаграфічным сэнсе вёска. Там 2 вуліцы, паміж якімі ўзімку адбываецца спаборніцтва – лепяць са снегу розныя фігуры, прычым кожная вуліца стварае нейкіх сваіх герояў. Там захавалі вельмі старажытныя карагоды, дзе ўдзельнікі рухаюцца "сценка на сценку": з аднаго боку праграмных стаяць дзяўчаты, з іншага – хлопцы. У гэтай вёсцы вельмі актыўныя мужчыны – яны спяваюць, развучваюць розныя сцэнкі. Назва паходзіць ад імя адной беларускай дзяўчыны – Ліды, якая пры перасяленні беларусаў на гэтае новае месца абмярала зямлю для беларускай вёскі.

Прадстаўнікі ІТБК прыехалі ў в. Лідзінск са сваімі трыма фальклорнымі гуртамі ("Пралескі", "Самацветы" і "Ленушка") і актыў беларускага моладзевага клуба "Крывічы". ІТБК паказала архаічнае Гуканне вясны.

ІТБК рэгулярна ладзіць этнаграфічныя экспедыцыі ў беларускія вёскі Іркуцкай вобласці (беларусы-перасяленцы пачатку XX ст., якія закансервавалі ў Сібіры многія абрады і фальклорныя творы). Пры гэтым рэгулярна адбываюцца адкрыцці – мы знаёмімся з новымі беларускімі вёскамі, пра якія яшчэ не ведалі этнографы, і часта сустракаем там багатую фальклорную спадчыну і актыўнае жыццё. Звычайна адбываецца так: я нейкім чынам даведваюся, што ёсць нейкая беларуская вёска, спачатку выязджаю туды адзін. Напрыклад, у Лідзінск я паехаў спачатку адзін, пазнаёміўся з тамашнімі актывістамі і ўбачыў вялікі патэнцыял, ёсць жаданне стварыць суполку – аддзяленне нашага Таварыства. Потым, звычайна, мы едзем з нейкім канцэртам ці з нейкай праграмай. ІТБК прыехала ў в. Чарчэт з Каляднай праграмай і паказала старыя беларускія Каляды. Гэты прыезд так там усё ускалыхнуў, і зараз пры вясковай бібліятэцы ствараецца фальклорная студыя. Прайшоў сход жыхароў вёскі і прынята рашэнне пра стварэнне аддзялення ІТБК. Гэта ўжо 6-е аддзяленне ІТБК у Іркуцкай вобласці.

Зараз скончаны перамовы пра стварэнне яшчэ 3-х аддзяленняў ІТБК: два у вёсках Іркуцкай вобласці і адно ў г. Саянску. Гэтыя суполкі пачнуць сваю дзейнасць ужо на працягу 2-3-х месяцаў гэтага года.

Падчас этнаграфічных экспедыцый не толькі збіраем фальклор і нейкія рэчы, але і вядзем працу з нашчадкамі беларусаў-перасяленцаў. Па выніках экспедыцый мы адкрылі ў Іркуцку этнаграфічны музей.

Са снежня ІТБК ладзіць пасяджэнні гістарычнага клуба "Спадчына". Калі мы пачыналі – гэта была ініцыятыва толькі нашага Таварыства, але два апошніх пасяджэнні мы правялі разам з Літоўскім, Польскім і Украінскім цэнтрамі. Клуб збірае поўную залу. Пасяджэнні сталі такім месцам, дзе нацыянальныя цэнтры прадстаўляюць народы, якія мяжуюць з Беларуссю. Прыходзяць таксама супрацоўнікі гарадской і абласной адміністрацыі, яны лічаць беларускі гістарычны клуб вельмі цікавай навацыяй, якая знаёміць з інфармацыяй, невядомай на афіцыйным узроўні.

У межах працы з дзецьмі ў сядзібе ІТБК дзейнічае дзіцячы клуб "Зярнятка". Клуб працуе кожную суботу, у ім вывучаецца тры асноўных прадметы: беларускае слова (мова і літаратура), гісторыя беларускага народа (гісторыя, этнаграфія і інш.) і беларускія рамёствы (саломапляценне, вышыўка, дадаткова да святаў вывучаюцца беларускія песні).

Журналістаў тэлебачання цікавіць нашая дзейнасць, быў зняты шыкоўны дакументальны фільм пра Яна Чэрскага (славутага беларуса – даследчыка Сібіры), які шматразова трансляваўся, а таксама быў зняты вялікі рэпартаж пра беларускую вышыўку і інш. Таму можна сказаць, што мы вельмі шчыльна працуем са сродкамі інфармацыі.

6 траўня ІТБК ездзіла ў г. Саянск, дзе адбылася прэм'ера новага праекта ІТБК, у межах якога мы спрабуем спяваць старажытныя беларускія песні. Гэта адбылося падчас уручэння медалёў "60 год вызвалення Беларусі" ветэранам, якія вызвалялі Беларусь. Мэр горада Саянска аказаўся беларусам і сказаў, што прыезд ІТБК яго натхніў і цяпер у горадзе будзе створана беларуская суполка.

У ІТБК ёсць дзве асноўныя мэты: аб'яднанне беларусаў вобласці ў адзіную супольнасць і пашырэнне ведаў пра беларускую культуру. Таму мы зацікаўленыя ў стварэнні ў Іркуцкай вобласці нашых аддзяленняў – апорных кропак, з дапамогай якіх мы маглі б працаваць сістэмна і мэтанакіравана.

*Алег Рудакоў*

## Падарожжа на Радзіму

Іркуцкія беларусы вымушаны былі 2 сутак ехаць да сваёй гістарычнай Радзімы. З першых хвілін знаходжання на беларускай зямлі іркуцкі фальклорны гурт "Ленушка" спяваў. 17 траўня на пероне Мінскага вакзала пад гармонік удзельніцы гурта віталі беларускую сталіцу беларускімі народнымі спевамі.

Праграма візіту іркуцкіх беларусаў была надзвычай насычаная. У дзень прыезду ўдзельнікі гутра "Ленушка" здзейснілі экскурсію па Мінску, праспявалі цэлы канцэрт на заводзе "Атлант", зладзілі творчую сустрэчу з гуртамі "Радавод" і "Радаводзік". 18 траўня гурт выступіў на заводзе "Жалезабетон", а ўвечары адбылася сустрэча са "Студэнцкім Этнаграфічным Таварыствам", дзе было шмат народных спеваў, шмат танцаў пад беларускую дуду і гармонік. 19 траўня гурт накіраваўся ва ўнікальную вандроўку – музей драўлянай архітэктуры Строчыцы, Мірскі замак, Радзівілаўскі замак у Нясвіжы. Увечары Згуртаванне "Бацькаўшчына" наладзіла творчую сустрэчу з мінскімі фольк-гуртамі, гуртамі "Старым Ольса" і "Яварына", дзе было шмат танцаў і спеваў. 20 траўня адбылася экскурсія ў этнаграфічны музей Акадэміі Навук, сустрэча з кіраўніком гурта "Троіца" Іванам Кірчуком і студэнтамі факультэта Народнай творчасці педагагічнага ўніверсітэта. 21 траўня гурт "Ленушка" паспяхова выступіў на VI Усебеларускім Фестывалі нацыянальных культур.

22 траўня, зноў жа з беларускімі спевамі на пероне, іркуцкія беларусы развіталіся з Мінскам, скончыўшы сваю доўгую, удалую і багатую на прыгоды і падзеі вандроўку. У якасці падарунка і дзеля далейшай працы Згуртаванне "Бацькаўшчына" прэзентавала невялікую бібліятэчку беларускай мастацкай і навуковай літаратуры.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*На здымку: Алег Рудакоў у сваім кабінеце ў Сядзібе ІТБК*

# Праграма "Беларусы ў Польшчы 2005-2010 гг."

**У некаторых сродках інфармацыі з'явіліся паведамленні пра дзяржаўную праграму "Беларусы ў Польшчы 2005-2010 гг.", распрацаваную пры дапамозе Міністэрства замежных спраў Беларусі і прынятую Саветам Міністраў Беларусі. Незвычайнасць сітуацыі ў тым, што пазнаёміцца са зместам гэтай Праграмы супрацоўнікам "Бацькаўшчыны" так і не ўдалося. Інфармацыя пра гэты дакумент адсутнічае на сайце Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы, няма яе на афіцыйным сайце Міністэрства замежных спраў; у прэс-службе Міністэрства замежных спраў супрацоўніку МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" паведамілі, што не маюць гэтай Праграмы, а толькі бралі ўдзел у яе складанні. У прыёмнай Савета Міністраў таксама не атрымалася высветліць месцазнаходжанне гэтага дзяржаўнага дакумента.**

**Увазе шаноўных чытачоў прапануем апісанне Праграмы "Беларусы ў Польшчы 2005-2010 гг.", атрыманую намі з некалькіх сродкаў інфармацыі, а таксама каментар да яе аднаго з самых актыўных дзеячаў беларускай супольнасці Польшчы, рэдактара беларускага тыднёвіка "Ніва", кіраўніка Беларускага звязу ў Польшчы Яўгена Вапы.**

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Урад Беларусі прыняў Праграму

**Урад Беларусі ўпершыню прыняў Праграму супрацоўніцтва і дапамогі беларускай меншасці Польшчы на пяць бліжэйшых гадоў.**

Праграма супрацоўніцтва з беларускай меншасцю ў Польшчы пад назвай "Беларусы ў Польшчы ў 2005-2010 гадах" была зацверджана Саветам Міністраў у канцы студзеня гэтага года. Апрацавала яе Міністэрства замежных спраў Беларусі пры ўдзеле ведамстваў культуры, адукацыі, інфармацыі, гаспадаркі, гандлю, Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей, публічнага тэлебачання, Акадэміі навук і іншых. Канчатковае прыняцце праграмы супала з падрыхтоўкай у Польшчы і канчатковым прыняццем Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях ды рэгіянальнай мове.

Як кажа пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Павел Латушка, мэта Праграмы – "дапамога і развіццё ды ўзаемнае карыснае супрацоўніцтва Беларусі і беларускай меншасці ў Польшчы", якія маюць служыць фармаванню "добрасуседскай паласы" вакол Беларусі і захаванню тоеснасці беларускай меншасці ў Польшчы. Мае яна таксама на мэце ўключэнне прадстаўнікоў меншасці ў эканамічнае супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Польшчай, дапамогу польскім беларусам у атрыманні адукацыі ў Беларусі ды развіццё культурнай і падтрымку нацыянальнай тоеснасці.

Як падкрэслівае пасол П.Латушка, з ліку больш дзесяці раздзелаў найважнейшыя тыя, якія датычаць адукацыі на беларускай мове, падтрымкі беларусаў у захаванні нацыянальнай і культурнай самабытнасці ды развіццё гаспадарчага супрацоўніцтва пры ўдзеле меншасці. Праграма прадугледжвае вучобу ў беларускіх вышэйшых навучальных установах маладых беларусаў з Польшчы ды дапамогу ў адкрыцці беларускамоўных школ і класаў у Польшчы, а таксама супрацоўніцтва навуковых устаноў, якія займаюцца беларускай мовай, і арганізацыю курсаў павышэння кваліфікацыі настаўнікаў з Польшчы, якія навучаюць беларускай мове. Мае быць заснаваны спецыяльны фонд дзеля забеспячэння польскіх школ і беларускіх класаў падручнікамі і іншымі метадычнымі кнігамі, а таксама мастацкай літаратурай і слоўнікамі. Зоймецца гэтым Беларуская навукова-педагагічная бібліятэка.

У рамках праграмы прадугледжваецца таксама забеспячэнне і арганізацыя турыстычна-адпачынкавай пабыўкі ў Беларусі беларускіх дзяцей і моладзі з Польшчы. Вучні з польскіх школ і беларускіх класаў будуць запрашацца на агульнабеларускую алімпіяду па беларускай мове, і будзе таксама аказвацца дапамога ў арганізацыі фіналаў падобнай агульнапольскай алімпіяды. Што важнае – беларускі ўрад прадбачвае дапамогу ў заснаванні ў Польшчы ў будучыні Цэнтра беларускай культуры, які мае ўзнікнуць у Варшаве.

У большым маштабе, чым да гэтай пары, маюць удзельнічаць фальклорныя калектывы з Беларусі ў разнастайных культурных мерапрыемствах, арганізаваных у Польшчы (і наадварот). Прадугледжваецца шчыльнейшае супрацоўніцтва і дапамога Музею і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Маюць быць наладжаны непасрэдныя кантакты тае ўстановы з Нацыянальнай бібліятэкай і Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі. Беларускі бок будзе "арганізацыйна і творча" падтрымліваць святы беларускай культуры ў Польшчы. Школам, музеям і Музею ў Гайнаўцы ды беларускім арганізацыям запрапануюцца беларускія мастацкія і дакументальныя фільмы на беларускай мове. Штогод у Падляшскім ваяводстве мае арганізавацца тыдзень беларускіх фільмаў. Беларускія фальклорныя калектывы пастулова будуць атрымліваць касцюмы, інструменты і адпаведную спецыяльную літаратуру, таксама рэпертуарную. Урадавы праект прадбачвае публікацыі ў беларускіх СМІ, між іншым, у часопісе "Культура", матэрыялаў аб культурнай дзейнасці меншасці. Кіраўнікі беларускіх фальклорных гуртоў маюць ездзіць на стажыроўкі ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры ў Мінску. Беларускі бок намерваецца паставіць фільм аб беларускай меншасці ў Польшчы і выдаваць у Беларусі кнігі беларускіх аўтараў з РП.

У рамках гаспадарчага супрацоўніцтва будзе падтрымлівацца супрацоўніцтва з прадпрымальнікамі беларускага паходжання. Прадстаўнікам меншасці гарантуецца дапамога ў заснаванні дылерскіх сетак продажу беларускіх тавараў і паслуг на польскім рынку. Гаспадарчыя суб'екты з Беларусі і прадпрымальнікі з Польшчы з беларускім радаводам атрымаюць льготы пры арганізацыі супольных фірмаў і ўзаемнай рэкламы сваёй дзейнасці. Запланаваны сустрэчы прадпрымальнікаў-беларусаў з Польшчы з прадстаўнікамі органаў урада РБ.

На пытанне "Нівы" аб крыніцах і сродках на рэалізацыю Праграмы, пасол Павел Латушка адказаў: "Усе сродкі ў сувязі з канкрэтнымі мерапрыемствамі Праграмы будуць атрымлівацца з бюджэту асобных міністэрстваў, абласных выканаўчых камітэтаў і прадпрыемстваў. Ад 2005 года ўсе гэтыя ўстановы будуць абавязаны нашым урадам вылучыць сродкі з уласнага бюджэту. Праграма не называе канкрэтнай сумы".

*Паводле "Нівы". 2005. 27 сак.,*
*"Голасы Радзімы". 2005. 28 крас.,*
*www.bialorus.pl*

## Яўген Вапа наконт Праграмы:

"Агульнавядома, што ўсе дзяржавы імкнуцца дапамагчы сваім нацыянальным дыяспарам. І гэта ёсць нармальная практыка ва ўсім свеце. Зразумела, што праграма, пра якую ідзе гутарка, ёсць, з аднаго боку, добрая рэч, але, з другога боку, мы ведаем, што адбываецца зараз з беларускасцю ў Беларусі. Для мяне асабіста гэта з'яўляецца вельмі важным фактам. Вельмі важна, каб узмацненне беларускасці адбылося ў самой Беларусі. І гэта была б для дыяспары самая лепшая дапамога, самы лепшы доказ таго, што ёсць сур'ёзныя намеры будаваць менавіта незалежную беларускую дзяржаву. А калі ў самой Беларусі ёсць працэсы, звязаныя з русіфікацыяй, то дзеянні, скіраваныя на развіццё нацыянальнай меншасці ў Польшчы, могуць выклікаць у многіх людзей падазрэнні і пытанні: "Чаму ж у сябе гэтага не робяць, а тут гэта робіцца?" Усё было б нармальна, каб Беларусь была беларускай дзяржавай.

Тое, што праграма гэтая не надрукаваная, – гэта зусім не зразумела. Калі гутарка ідзе, што ёсць праграма, то трэба яе пабачыць. Мы таксама не ведаем, якія будуць выдзелены сродкі на яе выкананне. Я некалькі разоў пытаўся консула ў Беластоку, якія ёсць сродкі на праграму ў іх распараджэнні, але ніхто нічога не ведае".

## Працэс дзевяцёх

У Беластоку ў сераду адбыўся папярэдні разгляд справы сяброў Праграмнай Рады штотыднёвіка "Ніва". Пракуратурай "Беласток-Поўдзень" яны вінаваціцца ў неадпаведным выкарыстанні бюджэтных сродкаў. "Ніўцы" лічаць справу спробай уціску беларускага жыцця ў Польшчы. Паводле заканадаўства, пры ўмове прызнання сваёй віны, сябры Праграмнай Рады маглі без разгляду атрымаць мінімальнае пакаранне – умоўнае закрыццё справы і па 600 злотых штрафу кожны. Але такі падыход іх не задаволіў, будзе суд, артыкул крымінальнага кодэксу прадугледжвае да васьмі год пазбаўлення волі. Дзень суда яшчэ не вызначаны.

*Паводле "Нашай нівы", www.euramost.org*

## У Беластоку пачаўся працэс

Ніводны з дзевяці абвінавачваемых сяброў Праграмнай Рады беластоцкага штотыднёвіка "Ніва" не прызнаў сваёй віны падчас папярэдняга разгляду, які адбыўся ў раённым судзе горада Беластока. У сувязі з гэтым, справа сяброў Праграмнай Рады стане прадметам паўнацэннага судовага працэсу. Дата першага пасяджэння пакуль не названая.

**Між тым, артыкул крымінальнага кодэксу, паводле якога абвінавачваюць беластоцкіх беларусаў, прадугледжвае да васьмі год пазбаўлення волі. У гэтых умовах беларусы Беласточчыны разлічваюць не толькі на аб'ектыўны і бесстаронні суд, але і на маральную падтрымку беларускага свету.**

"Асабіста для мяне гэтая беларуская салідарнасць вельмі важная, – гаворыць Яўген Вапа. – Яна азначае, што калі беларуса б'юць у Беластоку, то гэты боль адчуваецца паўсюдна, дзе толькі ёсць беларускае жыццё. У гэтым я бачу заруку нашай перамогі. Прынамсі, перамогі маральнай".

*pahonia.promedia.by*

## Ад рэдакцыі

**Мы папрасілі сп. Я.Вапу ў тэлефоннай размове пракаментаваць падзеі для бюлетэня "Беларусы ў свеце".**

**Яўген Вапа:** "У ходзе пасяджэння Пракуратура запрапанавала нам, каб гэтак званае ўмоўнае пакаранне было за тое, што мы згаджаемся з абвінавачваннямі і прызнаемся ў віне, – і за гэта год у адтэрміноўцы пакарання і 600 злотых штрафу. Ніхто з 9-ці абвінавачаных сяброў Праграмнай Рады не прызнаў сябе вінаватым, і таму справа будзе разглядацца ўжо ў судзе. Тэрмін судовага пасяджэння пакуль не вядомы, але на працягу паўтары-двух месяцаў, паводле слоў адвакатаў, павінна адбыцца першае пасяджэнне, так што мы разлічваем на справядлівасць суда".

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

ЧЭРВЕНЬ У НАШАЙ ГІСТОРЫІ

## Чэрвень у гісторыі Беларусі

8 чэрвеня – 110 гадоў з дня нараджэння Ігната Дварчаніна (1895–1937), беларускага літаратуразнаўца, паэта, грамадскага дзеяча.

9 чэрвеня – 45 гадоў з дня стварэння (1960) Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

14 чэрвеня – 105 гадоў з дня нараджэння Забэйды-Суміцкага (сапр. Забэйда) Міхаіла Іванавіча (1900–1981), беларускага спевака. Жыў у Празе.

15 чэрвеня – 100 гадоў з дня нараджэння Юркі Віцьбіча (1905–1975), беларускага празаіка. Жыў у ЗША.

17 чэрвеня – 115 гадоў з дня адкрыцця (1890) Мінскага гарадскога тэатра. З 1920 г. у яго памяшканні працуе Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы.

24 чэрвеня – 105 гадоў з дня нараджэння Кузьмы Чорнага (сапр. Мікалай Раманоўскі; 1900–1944), беларускага празаіка, драматурга, публіцыста.

25 чэрвеня – 100 гадоў з дня нараджэння Петруся Броўкі (1905–1980), беларускага паэта, празаіка, грамадскага дзеяча, народнага паэта Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

28 чэрвеня 1942 г. пры загадкавых абставінах загінуў у Маскве класік беларускай літаратуры Янка Купала. След ягонай смерці вядзе да спецслужбаў СССР.

*Паводле Беларускага архіва-музея літаратуры і мастацтва*

## Чэрвень у гісторыі беларускай дыяспары

23 чэрвеня 1946 г. заснавана Крывіцкае Навуковае Таварыства імя Пранціша Скарыны ў Рэгенсбургу (Германія).

13 чэрвеня 1947 г. адбыўся сход беларускіх настаўнікаў і заснаванне Аб'яднання беларускіх настаўнікаў у Англійскай зоне Германіі.

18 чэрвеня 1949 г. створаны Беларуска-Амерыканскі Дапамогавы Камітэт у Сайт-Рыверы (ЗША).

21 чэрвеня 1950 г. заснаванне Беларускага Нацыянальнага аб'яднання ў Таронта (Канада).

22 чэрвеня 1950 г. першая беларуская праваслаўная служба ў Таронта (Канада).

14 чэрвеня 1953 г. створаны ньюёркскі аддзел Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.

28 чэрвеня 1953 г. Беларускае Аб'яднанне ў Таронта набыло будынак для царквы і грамадскага цэнтра, асвячэнне і першая служба.

22 чэрвеня 1958 г. першая служба ў беларускай праваслаўнай царкве св. Пятра і Паўла ў Мельбурне (Аўстралія).

21 чэрвеня 1964 г. адбыўся Беларускі фестываль песні, музыкі і танца (120 выканаўцаў) на Сусветнай выставе ў Нью-Ёрку (ЗША).

28 чэрвеня 1969 г. асвячэнне Беларускага грамадскага цэнтра "Слуцак" (Канада).

9 чэрвеня 1973 г. урачыстае адкрыццё Беларускага аддзела ў Кліўлендскай бібліятэцы з беларускай выставай.

У чэрвені выйшаў № 1 Беларускага часопіса "Царкоўны светач", Саўт-Рывер (ЗША).

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

**Міхась Забэйда-Суміцкі** – спявак, педагог, грамадска-культурны дзеяч. Нарадзіўся 14.06.1900 г. У 1920 г. у сувязі з падзеямі грамадзянскай вайны М.Забэйда-Суміцкі выехаў у Харбін (Далёкі Усход), дзе выпадкова трапіў у трупу опернага калектыву Харбінскага тэатра. З 1929 г. пачалася бліскучая кар'ера М.Забэйды-Суміцкага як спевака. Да 1932 г. Міхась праспяваў 15 тэнаровых партый на сцэне Харбінскага опернага, у той жа час працаваў школьным настаўнікам, каб зарабіць грошы для стажыроўкі ў Італіі. У 1932 г. М.Забэйда-Суміцкі выехаў у Мілан, працаваў там у тэатры "Ла Скала", у якім выканаў амаль усе тэнаровыя партыі. Абвастрэнне старой хваробы – працэсу ў лёгкіх – змусіла М.Забэйду-Суміцкага лячыцца ў Сан-Рэма, па звароце ў Мілан спявак зноў выказаў сваё майстэрства ў оперных спектаклях, канцэртных выступленнях.

У 1935–1936 гг. спяваў у Познанскім оперным тэатры (Польшча). Пасля пераехаў у Варшаву, адкуль аднойчы, па запрашэнні Рыгора Шырмы, выязджаў з канцэртамі ў Вільню. У гады вайны жыў у Празе, настойліва адмаўляўся ад супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі. Спевамі імкнуўся з'яднаць людзей, народы, а таму выконваў песні на 16 мовах свету.

У Беларусі выступаў у Ваўкавыску, ганарар перадаў партызанам. Фашысты лічылі М.Забэйду-Суміцкага бальшавіцкім агентам, паводле даносаў неаднаразова арыштоўвалі, садзілі ў турму (1944), хацелі выселіць з Прагі. Пасля вайны і да апошніх гадоў жыцця спявак жыў у Празе. З песнямі розных народаў выступаў у канцэртах, на радыё, як выкладчык чытаў лекцыі пра мастацтва спеваў. Прыязджаў на гастролі на Беласточчыну, дзе М.Забэйду-Суміцкаму ўдалося выпусціць дзве грампласцінкі беларускіх песень. У 1963 г. быў на гастролях у Мінску, Віцебску, беларуская публіка высока ацаніла талент спевака. Аднак на Радзіме М.Забэйда-Суміцкі так і не змог выпусціць ні адной грампласцінкі. Галоўная заслуга артыста перад Радзімай у тым, што ён вывеў беларускі песенны фальклор на сусветную сцэну.

М.Забэйда-Суміцкі памёр у Празе 21.12.1981 г., пахаваны на Альшанскіх могілках Прагі.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

**Юрка Віцьбіч**, Алесь Крыжаніч (сапраўднае імя Юры Аляксандравіч Стукаліч) – празаік, публіцыст, гісторык. Нарадзіўся ў 1905 г. у г. Веліж (цяпер Смаленская вобл.) у сям'і святара. Скончыў педтэхнікум, але не быў дапушчаны да настаўніцкай працы як сын "класавага ворага". Вымушаны быў пакінуць Беларусь, паехаў у Маскву. Працаваў на будаўніцтве, на Дзербянёўскім хімічным заводзе, жыў у сутарэнні на Арбаце, дзе знаходзіўся Цэнтральны Беларускі клуб. Атруціўся газам, але выжыў. Да гэтага часу ён ужо быў аўтарам каля 40 апавяданняў і аповесці "Арцыбіскуп і смерд".

Атрымліваў шмат прапаноў ад розных літаратурных згуртаванняў, але лічыў сваім згуртаванне "Узвышша", якое цкавалі з усіх бакоў за яго прыхільнасць да беларускай нацыянальнай ідэі. Віцьбіч не падпісаў ліст аб самаліквідаванні "Узвышша". Пачалося цкаванне Віцьбіча за "нацыяналістычныя" памылкі.

Віцьбіч зноў вяртаецца ў Віцебск, працягвае творчую працу. Узначальваў навуковыя экспедыцыі па даследаванні і ўліку помнікаў гісторыі, мастацтва, дойлідства, займаўся археалагічнымі раскопкамі (раскапаў каля 70 курганоў), напісаў шэраг навуковых прац па гэтых праблемах. Пабываў у Крошыне, адшукаў магілу Паўлюка Багрыма.

У 30-я гады шмат друкаваўся. Тэматыка твораў, заснаваная на беларускім сучасным і мінулым, на праблемах захавання гістарычнай спадчыны, выклікала абсалютнае непрыманне савецкай крытыкай. Ён улюбёна ўслаўляў родную Віцебшчыну, Дзвіну, імкнуўся распавесці пра супраціўленне беларускага народа розным захопнікам, раскрыць вобразы герояў-змагароў за незалежнасць Бацькаўшчыны.

Падчас вайны Віцьбіч жыў у Віцебску, затым у Мінску, працаваў у штабе БКА разам з К.Езавітавым. Друкаваў нарысы і артыкулы, у якіх гаварыў пра калектывізацыю, сталінскі тэрор, разбурэнне святыняў. Выдаў два зборнікі публіцыстыкі выразна антысавецкай накіраванасці. Падрыхтаваў да выдання тры нумары часопіса "Узвышша" як працяг справы загінуўшых у ГУЛАГу сяброў. Перыяд нямецкай акупацыі за ім палявалі падпольшчыкі, гестапа ведала пра творы, дзе ён абараняў яўрэяў. Сам пісьменнік лічыў, што ён працуе на нацыянальную ідэю, марыў пра незалежнасць Беларусі.

Давялося пакінуць Радзіму. У 1949 г. Віцьбіч пераязджае ў ЗША, г. Саўт-Рывер (штат Нью-Джэрсі), дзе заснавалася калонія беларусаў-эмігрантаў. Даводзілася цяжка фізічна працаваць, але ён працягваў выдаваць "Шыпшыну", пісаў артыкулы для радыёстанцыі "Свабода", як мог садзейнічаў згуртаванню землякоў.

Увесь час працаваў над тэмай "Антыбальшавіцкія паўстанні на Беларусі". Збіраў матэрыялы пра змагароў Вяліжскага, Парэцкага, Мірскага, Слуцкага, Гомельскага, Бешанковіцкага паўстанняў, пра Мсціслаўскую сялянскую дэмакратыю, Койданаўскую незалежную рэспубліку, Барысаўскі бунт, антыбальшавіцкую партызанскую барацьбу на Беларусі (1918-29 гг.) – усё дзеля таго, каб разбурыць легенду "о тихом белорусе". Віцьбіч ліквідаваў многія "белыя плямы" ў савецкай гісторыі Беларусі. Віцьбіч быў неперасўзыдзеным майстрам эпісталярнага жанру. Ён вёў вялікую перапіску амаль з усімі беларускімі пісьменнікамі, вядомымі дзеячамі беларускага замежжа.

Юрка Віцьбіч памёр у 1975 г. у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі, ЗША).

*Паводле Лідзіі Савік*

## ВЕСТКІ

***

У сакратарыят старшыні парламента Еўрасаюза Джозэпа Борэлла перададзены праект рэзалюцыі аб стварэнні сеткі рэгіянальных радыёстанцый для вяшчання на Беларусь. Як паведаміў ініцыятар рэзалюцыі польскі еўрадэпутат Багдан Кліх, у дакуменце прапаноўваецца ЕС падтрымаць будаўніцтва радыёстанцый у Літве, Польшчы і, магчыма, Украіне. Праект сабраў дваццаць подпісаў пры неабходных дзвух. Па яго словах, чакаецца, што праект рэзалюцыі па Беларусі будзе разгледжаны ў ходзе наступнай сесіі Еўрапарламента 6-9 чэрвеня ў Страсбургу.

*www.afn.by*

***

Беларуская амбасада ў Швецыі адмовіла ў візах 9-ці прадстаўнікам шведскіх няўрадавых арганізацый, якія меліся прыехаць на беларуска-шведскую канферэнцыю ў Мінск. Апроч таго, ад арганізатараў мерапрыемства – шведскага цэнтра развіцця міжнароднага супрацоўніцтва "Forum Syd" і аддзялення ў Мінску амбасады Швецыі ў Маскве – Мінгарвыканкам запатрабаваў адмысловага дазволу на правядзенне канферэнцыі. У выніку яе адмянілі.

Планавалася беларуска-шведская канферэнцыя няўрадавых арганізацый з мэтай наладжвання сумесных праектаў у сацыяльнай ды экалагічнай сферах. Намеснік начальніка ўпраўлення ідэалагічнай работы Мінгарвыканкама Уладзімір Зубрык патлумачыў, што арганізатары падобных канферэнцый павінны звяртацца па адпаведны дазвол. У.Зубрык: "Дазвол дае Палата прадстаўнікоў, камісія, а ў гэту камісію накіроўваюцца дакументы праз Міністэрства эканомікі. Таму звяртацца трэба ў Міністэрства эканомікі, а тыя перадаюць дакументы ў Палату прадстаўнікоў і там прымаецца рашэнне".

*Радыё "Свабода". 2005. 21 траўня*

***

Галоўны дзяржаўны інспектар аховы гісторыка-культурнай спадчыны Мінгарвыканкама Уладзімір Папруга заявіў Радыё "Свабода", што падасць у адстаўку, калі адміністрацыя Лукашэнкі і надалей будзе трымацца пазіцыі радыкальнай перабудовы гістарычнага Верхняга горада Мінска.

Месяц таму вядомыя беларускія архітэктары, мастацтвазнаўцы, філосафы напісалі зварот да Аляксандра Лукашэнкі, у Камітэт Дзяржкантролю і Генеральную пракуратуру з заклікам спыніць знішчэнне гістарычнага цэнтра Мінска, вядомага як Верхні горад. Пасля гэтага падпісанты былі выкліканыя ў прэзідэнцкую адміністрацыю, дзе ім паабяцалі стварыць камісію, якая мусіць наноў вырашыць лёс праекта татальнай перабудовы Верхняга горада. Аднак мінулі ўсе акрэсленыя тэрміны, адведзеныя на перагляд праекта.

*Паводле Радыё "Свабода"*

## Дыпламатычны канфлікт

**Прапануем падборку падзей паводле беларускага і польскага друку. Падзеі пададзены ў храналагічнай паслядоўнасці.**

Беларускія ўлады прызналі нелегітымным 6-ы з'езд Саюза палякаў Беларусі, які адбыўся ў Гродна 12-13 сакавіка. Міністэрства замежных спраў Польшчы выступіла з заявай, дзе зазначана, што польскае МЗС успрыняло паведамленне аб такім рашэнні "з абурэннем".

У Польскім Сейме адбылося пасяджэнне, падчас якога абмяркоўваліся польска-беларускія адносіны. Віцэ-міністр замежных спраў Польшчы Анджэй Залуцкі заявіў, што ў адказ на дзеянні беларускіх уладаў польскі бок падрыхтаваў спіс беларускіх чыноўнікаў, якія не могуць перасякаць мяжы. Вышэйшым прадстаўніком беларускіх уладаў, якога не пусцяць у Польшчу, з'яўляецца міністр юстыцыі Беларусі Віктар Галаванаў. Апрача таго, у Польшчу не змогуць прыехаць чыноўнікі беларускага Камітэта па справах нацыянальнасцяў і рэлігіі, а таксама функцыянеры КДБ.

Калі польскія ўлады прымуць рашэнне аб забароне на ўезд у Польшчу для асобных беларускіх грамадзян, то Беларусь "адкажа адэкватнымі мерамі". Аб гэтым заявіў журналістам 20 траўня старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Уладзімір Канаплёў у перапынку пленарнага пасяджэння.

Польскі дыпламат Марэк Буцька прызнаны ў Беларусі персонай нон-грата. Дыпламат адказваў за кантакты з палітычнымі партыямі і няўрадавымі арганізацыямі, а таксама падтрымліваў "працоўныя кантакты" з Саюзам палякаў у Беларусі (СПБ). Па словах дыпламата, ён меў кантакты з беларускай апазіцыяй, аднак гэта ўваходзіла ў яго абавязкі.

У адказ польскім бокам прынята рашэнне аб выдварэнні з тэрыторыі Польшчы дарадчыка беларускага пасольства.

*Паводле "Белорусской деловой газеты", "Radio "Polonia", "Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча", "Zycie Warszawy", "Hrodnanews"*

## Арышт удзельнікаў Чарнобыльскага шляху

26 красавіка ў гадавіну Чарнобыльскай трагедыі дзесяткі чалавек сабраліся, каб перадаць петыцыю ў адміністрацыю А.Лукашэнкі. У выніку разгону акцыі амонаўцы затрымалі больш за сорак чалавек. Сярод іх 5 грамадзянаў Украіны і 14 грамадзянаў Расіі. Непаўнагадовых удзельнікаў адпусцілі. Затрымалі 6 беларусаў, актывістаў Маладога Фронту.

27 красавіка адбыўся суд, аднаго ўкраінца арыштавалі на 9 сутак, трох – на 10 сутак і аднаго на – 15. У судзе іх абвінавацілі ў тым, што яны разам з іншымі скандзіравалі: "Жыве Беларусь!" Суд расцаніў гэта як парушэнне грамадскага парадку. Украінскі консул В.Сардэнка сказаў, што здзіўлены, чаму вокліч "Жыве Беларусь!" з'яўляецца парушэннем заканадаўства. Пасля абвяшчэння прысудаў украінскія грамадзяне адмовіліся прымаць ежу. Украінскі консул перадаў ім ваду і сок. Лідэр Беларускай партыі свабоды Сяржук Высоцкі і актывісты Маладога Фронту Зміцер Дашкевіч і Кірыл Шымановіч атрымалі аналагічныя тэрміны зняволення. Яны галадалі ў знак салідарнасці са сваімі ўкраінскімі сябрамі. Расіянаў з розных палітычных партыяў пакаралі арыштамі ад 5 да 15 сутак.

28 красавіка ля беларускае амбасады ў Кіеве нацягнулі сімвалічны калючы дрот. Ля амбасады пачаўся бардаўскі канцэрт. Удзельнікі пікетавання скандзіравалі "Украінцам свабоду" і "Жыве Беларусь!"

30 красавіка ў Мінску расіянцаў вызвалілі з-пад варты згодна з пратэстам пракуратуры, і яны праз дзве гадзіны пакінулі тэрыторыю Беларусі. Што тычыцца грамадзянаў Украіны, то старшыня суда ўсе прысуды пакінуў без зменаў.

2 траўня МЗС Украіны заявіў, што па-ранейшаму намагаецца вызваліць сваіх грамадзянаў, аднак зазначае падвойныя стандарты Беларусі ў дачыненні да Украіны і Расіі: затрыманых расейцаў адпусцілі, але асуджаных разам з імі ўкраінцаў трымаюць за кратамі.

4 траўня адбылося далейшае абвастрэнне беларуска-ўкраінскіх дачыненняў у сувязі з адмовай Мінска перагледзець прысуд, 5 украінцаў засталіся за кратамі. Тым часам беларуская амбасада выступіла з афіцыйнай заявай, у якой скардзілася, што пікетоўцы блакавалі доступ да будынка і скандзіравалі нецэнзурныя лозунгі на адрас кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. Амбасадар Беларусі Валянцін Вялічка сказаў, што не выключае прыпынення працы місіі.

5 траўня прэзідэнт Украіны Віктар Юшчанка зрабіў заяву: "Факт падвойных стандартаў стаўлення да ўдзельнікаў мірнай дэманстрацыі грамадзянаў Украіны, грамадзянаў Расіі, грамадзянаў іншых краінаў, засведчыў адмысловы падыход беларускага кіраўніцтва да гэтага эпізоду". Пасол Беларусі ва Украіне В.Вялічка быў выкліканы ў МЗС Украіны, дзе яму была ўручаная нота, у якой падкрэслівaецца, што санкцыянаваная грамадзянская акцыя каля беларускага пасольства "ніякім чынам не перашкаджае доступу да службовых памяшканняў і на тэрыторыю пасольства". Калючы дрот не замінае праходу супрацоўнікаў і мае сімвалічны характар. Украінская міліцыя заяўляе, што прэтэнзіяў не мае.

5 траўня дэпартаваны першы з украінскіх палітвязняў. 6 траўня са спецпрыёмніка выйшлі 8 палітвязняў: 4 грамадзянаў Украіны і 4 – Беларусі, якія трымалі галадоўку. За кратамі заставаўся актывіст Маладога Фронту Зміцер Дашкевіч, якога арыштавалі на 12 сутак.

*Паводле "Народнай волі", pahonia.promedia.by, "Беларускай Масквы", www.afn.by, "Белорусского рынка"*

## Перайменаванне

***

У сувязі з 60-годдзем Перамогі і па шматлікіх просьбах ветэранаў 7 траўня прэзідэнт А.Лукашэнка падпісаў загад аб перайменаванні вуліц Мінска: праспект Францыска Скарыны ў праспект Незалежнасці, праспект Машэрава ў праспект Пераможцаў. Вуліцай Ф.Скарыны будзе былы Старабарысаўскі тракт у раёне новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі. У праспект Машэрава будуць перайменаваныя вуліцы Ерусалімская, Драздa і Варвашэні.

*probelarus.ru*

***

Спачатку людзі думалі, што ўказ – кепскі жарт апазіцыі. За рашэннем "панізіць Скарыну" праглядаецца жаданне панізіць беларускую культуру ў сімвалічнай іерархіі гістарычных падставаў нацыі. Уладзімір Арлоў: "У працяг я б прапанаваў па просьбах ветэранаў, працоўных і беспрацоўных нашу сталіцу перайменаваць у Саўмінск".

*"Наша Ніва". 2005. 13 траўня*

***

Мінская міліцыя затрымала 8 удзельнікаў несанкцыянаванай акцыі пратэсту супраць перайменавання сталічных вуліц і праспектаў. 10 мая каля 19 гадзінаў дзесяткі людзей выстраіліся ўздоўж былога праспекта Скарыны. На галовах у іх былі белыя павязкі з чырвоным надпісам "SOS!". Акцыя неўзабаве была спынена АМАПам.

*Народная Воля". 2005. 12 траўня*

***

Таварыства Беларускай мовы імя Францыска Скарыны ініцыявала збор подпісаў пад патрабаваннем захаваць назву галоўнай магістралі г. Мінска "Праспект Францыска Скарыны". У распаўсюджаным сёння звароце да грамадскасці кіраўніцтва гэтай арганізацыі заклікала сваіх актывістаў актыўна ўключыцца ў гэты працэс, дасылаючы сабраныя подпісы на адрас: 220016, г. Мінск, вул. К.Маркса, 38, Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*pahonia.promedia.by*




АБ'ЯВЫ

## "Басовішча-2005"

22-23 ліпеня ў польскім мястэчку Гарадок пад Беластокам адбудзецца XVI фестываль беларускага року "Басовішча-2005". Традыцыйна бяруць удзел генералы айчыннай музыкі: NRM, Krama, Neuro Dubel, Zet, Ulis, а таксама леташнія пераможцы "Тарпач", "Сонцаварот", "Таксі", HMP і іншыя каманды. Як і ў мінулым годзе, усім, хто пажадае самастойна ўзяць удзел у фэсце, будзе прадастаўлена "Вольная сцэна". Галоўная ўмова – беларускамоўныя тэксты. З беларускага боку на конкурс паедзе 8 выканаўцаў. Для ўсіх жадаючых наведаць адзінае штогадовае свята беларускай рок-музыкі арганізуюцца традыцыйныя аўтобусы.

*"Hrodnanews". 2005. 19 траўня*

## Камунікат

Сардэчна Вам дзякую за чарговы нумар бюлетэня! Адбыліся змены інтэрнэт-адраса Беларускай Інтэрнэт Бібліятэкі "KAMUNIKAT". Зараз наш адрас:
http://kamunikat.fontel.net
Загадзя шчыра дзякую! З павагай,

*Яраслаў Іванюк*

Бюлетэнь Інфармацыйнага цэнтра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падбор матэрыялаў і вёрстка – Зміцер Сасноўскі. Адказная за выпуск – Алена Макоўская.

Адрас рэдакцыі: вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск 220030, Рэспубліка Беларусь zbsb@lingvo.minsk.by; www.zbsb.org тэл. (+375 17) 289-31-94

Наклад 200 асобнікаў

МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»
№5 (42) ТРАВЕНЬ 2005
БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ
ДАДАТАК



# КРУГЛЫ СТОЛ "Эканамічныя аспекты пашырэння Еўразвяза і становішча ў Беларусі"

**8-11 красавіка 2005 г. адбыўся Круглы стол "Эканамічныя аспекты пашырэння Еўразвяза і становішча ў Беларусі". Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" працягвае знаёміць чытачоў з тэзісамі дакладаў, якія прагучалі на пасяджэннях Круглага стала. Спадзяемся на цікавасць і водгукі па выкладзеных праблемах.**

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*Андрэй Лобач, кандыдат эканамічных навук, Мінск*

## Асаблівасці ўплыву пашырэння ЕС на гандлёва-эканамічныя стасункі і транспамежнае супрацоўніцтва з Рэспублікай Беларусь

**Развіццё транспамежнага супрацоўніцтва Беларусі з суседзямі.** Фармальнае і нефармальнае транспамежнае супрацоўніцтва Беларусі з Польшчай пачалося ў пачатку 90-х. Інтарэс у супрацоўніцтве рос вялікімі тэмпамі па абодва бакі мяжы. Развіццё адносінаў з Літвой ішло менш інтэнсіўна з-за ўведзенага ў пачатку 1990-х візавага рэжыму. У 1993-1994 гг. польскі бок прапанаваў стварыць еўрарэгіёны з удзелам прыпамежных абласцей Беларусі для нейкай фармалізацыі і далейшага развіцця транспамежнага супрацоўніцтва з дапамогаю сродкаў ЕС. Нягледзячы на тое, што ў 1997 г. Брэсцкая і Гродзенская вобласці ўвайшлі ў еўрарэгіёны Буг і Нёман, развіццё транспамежнага супрацоўніцтва запаволілася. Канфрантацыя з Еўрасаюзам, пераарыентацыя знешняй палітыкі на ўсход і цэнтралізацыя ўлады затармазілі развіццё плённага супрацоўніцтва з суседзямі. Удзел беларускіх абласцей у еўрарэгіёнах стаў намінальным; якіх-небудзь сур'ёзных праектаў рэалізавана не было.

Адной з асноўных праблем "застою" ў транспамежным супрацоўніцтве з Польшчай і Літвой з'яўляецца вельмі жорсткая цэнтралізацыя сістэмы дзяржаўнага кіравання ў Беларусі. У адрозненне ад большасці еўрапейскіх краін, паўнамоцтвы і кампетэнцыя рэгіянальных і лакальных органаў улады ў Беларусі абмежавана, і большасць рашэнняў прымаецца з азіраннем на "цэнтр". У такіх умовах транспамежнае супрацоўніцтва для прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі стварае лішнія праблемы, і ініцыятыва мясцовых органаў улады істотна памяншаецца.

Нягледзячы на апісаныя акалічнасці, пачынаючы з 1996 г. Еўрасаюз прада-стаўляе магчымасці фінансавання праектаў транспамежнага супрацоўніцтва Беларусі з памежнымі тэрыторыямі Польшчы і Літвы. Еўракамісіяй была распрацавана праграма TACIS CBC, унёсак якой складае 22,3% агульнага аб'ёму праграмы TACIS у Беларусі. З 1996 г. было рэалізавана 12 асноўных праектаў з агульным бюджэтам 11,7 млн. еўра. Сродкі былі накіраваны на будаўніцтва і ўдасканаленне памежных пераходаў, дэмаркацыю беларуска-літоўскай мяжы і экалагічныя праекты ў басейнах Заходняй Дзвіны, Заходняга Буга і Нёмана. У бліжэйшы час плануецца пачатак працы па двух праектах, а менавіта, будаўніцтва грузавога мытнага тэрмінала ў Брэсце (16 млн. еўра) і дэмаркацыя беларуска-латвійскай мяжы (2,2 млн. еўра).

Важнае месца ў праграме TACIS CBC займала падпраграма "Малых праектаў", якая прызначалася для развіцця супрацоўніцтва мясцовых адміністрацый памежных абласцей Беларусі, Малдовы, Расіі і Украіны з мясцовымі адміністрацыямі дзяржаў – удзельніц ЕС і краін-кандыдатаў. У 1996-2002 гадах у Беларусі было рэалізавана 10 малых праектаў з агульным бюджэтам 1,32 млн. еўра; прынята да фінансавання ў 2003 годзе яшчэ 5 праектаў з агульным бюджэтам 1,12 млн. еўра. Рэалізаваныя праекты былі накіраваны на: стварэнне форума памежных інвестараў у г. Брэсце; вывучэнне досведу суседзяў у развіцці рэгіянальнага супрацоўніцтва; навучанне спецыялістаў у вобласці кіравання транспартам і лагістыкі; развіццё сельскай эканомікі; арганізацыю латвійска-беларускага інфармацыйнага цэнтра і некаторыя іншыя мэты. У цэлым, вядома, 15 праектаў за 8 гадоў дэманструе слабую актыўнасць органаў мясцовай улады Рэспублікі ў рэалізацыі патэнцыйных магчымасцяў праграм Еўрасаюза.

> **Адной з асноўных праблем "застою" ў транспамежным супрацоўніцтве з Польшчай і Літвой з'яўляецца вельмі жорсткая цэнтралізацыя сістэмы дзяржаўнага кіравання ў Беларусі.**

На думку экспертаў каардынацыйнага бюро TACIS, жаданне абласных і раённых адміністрацый, а таксама няўрадавых структур супрацоўнічаць з суседзямі дастаткова вялікае. Кваліфікацыі кадраў у заходніх абласцях Беларусі ў цэлым цалкам задавальняючыя для рэалізацыі міжнародных праектаў. Адной з праблем у гэтым сэнсе з'яўляецца нізкі ўзровень валодання замежнымі мовамі (англійскай, французскай ці нямецкай), якія неабходны і для працы з дакументацыяй ЕС, і для афармлення заявак на праекты. Вырашэнне гэтай праблемы бачыцца ў прыцягненні ВНУ ў якасці партнёраў пры планаванні і рэалізацыі праектаў. У краінах ЕС-15 і ўжо ў ЕС-10 гэтая ніша занятая кансалтынгавымі фірмамі, якія за пэўнае ўзнагароджанне дапамагаюць правільна аформіць заяўку на праект на так званай "мове ЕС" (г.зн. не толькі на замежнай мове, але і з выкарыстаннем фармулёвак і тэрміналогіі, прынятых у Еўракамісіі).

**Праграмы добрасуседства ЕС: новыя магчымасці для Беларусі.** Еўракамісія працягвае распрацоўку "Праграм добрасуседства", якія павінны стаць асновай транспамежнага супрацоўніцтва ЕС-25 з новымі суседзямі. З боку ЕС праграмы добрасуседства фінансуюцца INTERREG (галіна А), а з боку краін-суседзяў – TACIS CBC. Агульнае фінансаванне праграм добрасуседства з бюджэту TACIS для чатырох краін СНД можа скласці 25 млн. – у 2005 годзе і 30 млн. еўра – у 2006 годзе. У праграмах добрасуседства могуць браць удзел Гродзенская, Брэсцкая, Віцебская і Мінская вобласці. Беларусь можа ўзяць удзел у трох праграмах: Латвія – Літва – Беларусь з бюджэтам 7,5 млн. еўра для Расіі і Беларусі; Польшча – Украіна – Беларусь (бюджэт 8 млн. еўра для Украіны і Беларусі) і "Рэгіён Балтыйскага мора", які мае на ўвазе транснацыянальнае супрацоўніцтва з партнёрамі з Даніі, Фінляндыі, Германіі, Швецыі, Польшчы, Нарвегіі, Расіі, Літвы, Латвіі і Эстоніі (бюджэт для Расіі і Беларусі – 7,5 млн.

еўра).

Трэба адзначыць, што апісаныя сумы не падзяляюцца паміж удзельнікамі на парытэтных падставах, а вылучаюцца ў залежнасці ад колькасці і якасці праектаў. Калі партнёры з Беларусі заявяць большую колькасць праектаў, вартых фінансавання, то яны могуць атрымаць нашмат больш сродкаў, чым партнёры з Расіі ці Украіны.

У адрозненне ад малых праектаў праграмы TACIS CBC, дзе заяўляльнікамі і галоўнымі выканаўцамі праектаў павінны былі выступаць органы мясцовай адміністрацыі, у праграмах добрасуседства могуць удзельнічаць любыя арганізацыі. Праекты павінны насіць транспамежны характар і спрыяць устойліваму развіццю рэгіёна.

Пасля таго, як праект прыняты да фінансавання Еўракамісіяй, ён павінен прайсці працэдуру ўхвалення і рэгістрацыі ў камісіі па пытаннях памежнага супрацоўніцтва пры Саўміне Рэспублікі Беларусь. Прамое ўмяшальніцтва чыноўнікаў значна ўскладняе і без таго няпростую бюракратычную працэдуру падрыхтоўкі і рэалізацыі праектаў памежнага супрацоўніцтва.

У цэлым, патэнцыял транспамежнага супрацоўніцтва з удзелам Беларусі вельмі вялікі. У бліжэйшыя гады трэба чакаць узвышанай актыўнасці нашых заходніх калег. Таму прадстаўнікі мясцовых адміністрацый і няўрадавых арганізацый Польшчы і Літвы, верагодна, будуць шукаць партнёраў у Беларусі. Нягледзячы на тое, што аб'ём фінансавых сродкаў, выдаткаваных для Беларусі значна менш, чым для новых удзельнікаў ЕС, іх цалкам дастаткова для рэалізацыі цікавых і карысных ініцыятыў.




**Табліца.** Дынаміка знешняга гандлю Рэспублікі Беларусь з новымі ўдзельнікамі ЕС у 1995-2004 гг. (млн. долараў ЗША). Крыніца: Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ.

**––––** **Тавараабарот**
**- - - - -** **Экспарт**
**– – –** **Імпарт**

*Леанід Злотнікаў, эксперт Цэнтра "Стратэгія", Мінск*

# Уплыў пашырэння ЕС на эканоміку Беларусі

На эканоміку Беларусі пашырэнне ЕС уплывае па трох напрамках:

- змены ўмоў знешняга гандлю;
- выкарыстанне партнёрскіх сувязяў у суседніх краінах ЕС для прасоўвання беларускіх тавараў на еўрапейскі рынак;
- павелічэнне інвестыцыйнай прывабнасці Беларусі.

Узмацненне інвестыцыйнай прывабнасці Беларусі выклікана магчымым прытокам тавараў і капіталу ў навадалучаныя краіны (Эстонія, Латвія, Літва, Польшча, Чэхія, Славакія, Венгрыя, Славенія, Кіпр, Мальта) са "старых" краін-удзельніц ЕС. Па-першае, нацыянальны капітал у навадалучаных краінах менш канкурэнтаздольны і будзе выціскацца ў суседнія краіны. Гэтаму працэсу будзе садзейнічаць наяўнасць даўно наладжаных сувязяў паміж прадпрымальнікамі суседніх краін, напрыклад, паміж прадстаўнікамі бізнес-асацыяцый Беларусі і Польшчы. Па-другое, чакаецца рост узроўню прыбыткаў у далучаных краінах, што будзе павялічваць інвестыцыйную прывабнасць больш бедных краін на мяжы з ЕС. Нізкі інвестыцыйны рэйтынг будзе перашкаджаць прытоку капіталу ў Беларусь, у тым ліку з новых краін-удзельніц ЕС. Спынімся на аналізе зменаў у сферы знешняга гандлю пасля ўступлення ў ЕС дзесяці новых удзельнікаў (краін 10-кі).

**Мытныя тарыфы.** Замест розных тарыфных ставак у краінах "дзесяткі" пасля іх уступлення ў ЕС быў вызначаны Адзіны мытны тарыф (для ўсіх 25-ці ўдзельнікаў ЕС), што спрасціла знешнегандлёвую дзейнасць беларускіх прадпрыемстваў на адным з буйнейшых рынкаў свету. Пры гэтым, як правіла, адбылося зніжэнне тарыфных ставак. Калі да ўступлення ў ЕС у краінах 10-кі сярэдні мытны тарыф складаў 7,1%-7,5%, то пасля 1 траўня 2004 г. – 3,2%-3,5%, г.зн. тарыфы знізіліся ўдвая.

**Такім чынам, пераход на Адзіны мытны тарыф у цэлым быў выгадны для прадпрыемстваў Беларусі, хаця і стварыў у асобных выпадках дадатковыя мытныя бар'еры.**

Такім чынам, пераход на Адзіны мытны тарыф у цэлым быў выгадны для прадпрыемстваў Беларусі, хаця і стварыў у асобных выпадках дадатковыя мытныя бар'еры. Напрыклад, палепшыўся доступ на рынкі Польшчы, Чэхіі і Венгрыі, дзе мытныя тарыфы былі больш высокімі, і пагоршыўся па некаторых таварах доступ на прыбалтыйскія рынкі, дзе стаўкі былі ніжэй. У Эстоніі, да прыкладу, да ўключэння ў ЕС тарыфныя бар'еры адсутнічалі.

**Сістэма тарыфных прэферэнцый.** Значную выгаду беларускія экспарцёры атрымалі ў выніку распаўсюджання на іх дзеянні Агульнай сістэмы тарыфных прэферэнцый (АСП), якія краіны ЕС прадастаўляюць краінам, што развіваюцца. АСП – гэта адзін з інструментаў, з дапамогаю якога развітыя краіны свету падтрымліваюць развіццё эканомікі ў краінах трэцяга свету. Краіны-донары (сярод якіх і Беларусь!), зніжаюць ці адмяняюць імпартныя тарыфы на тавары, якія імпартуюцца з іншых краін.

Пры ўключэнні ў склад ЕС новыя ўдзельнікі страцілі статус краіны, якая развіваецца, і прымяняюць АСП да іншых краінаў. У выніку АСП абсалютная большасць беларускіх тавараў экспартуецца ў ЕС, а з траўня 2004 і ў краіны 10-кі, бяспошлінна (83% ад коштавага аб'ёму), альбо па зніжаных тарыфах. Пасля пашырэння ЕС цалкам адмененыя тарыфныя бар'еры на ўвоз з Беларусі ў краіны 10-кі халадзільнікаў, трактараў, металапракату, вырабаў дрэваапрацоўкі, нафтапрадуктаў, піламатэрыялаў, мэблі, цэменту і некаторых іншых тавараў.

АСП не прадастаўляецца краінам, у якіх парушаюцца дэмакратычныя правы асацыяцый грамадзян. У Еўракамісію ад Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) ➲

**Распаўсюджанне стандартаў ЕС на краіны 10-кі азначае павышэнне патрабаванняў да якасці беларускіх тавараў. Таму доўгачасовых перспектыў у беларускіх аўтамабілебудаўнікоў у ЕС няма.**

былі прадастаўлены доказы парушэння правоў свабодных прафсаюзаў у Беларусі, і ў студзені 2004 г. Еўракамісія ініцыявала расследаванні па пытанні часовага прыпынення выкарыстання АСП адносна Беларусі. Гэта можа здарыцца, па ацэнцы экспертаў, ведаючых працэдуру разгляду такіх пытанняў, да канца 2005 г. Працэдура гэтая сапраўды доўгачасовая (што кажа, дарэчы, аб высокай ступені бюракратызацыі дзяржавы як у ЗША, так і ў ЕС). Напрыклад, Амерыканская Федэрацыя Прафсаюзаў ініцыявала працэс адмены АСП для Беларусі з боку ЗША ў 1997 г., але толькі ў ліпені 2000 г. прэзідэнт Клінтан падпісаў адпаведнае распараджэнне.

Наступствам адмены дзеяння АСП можа стаць павелічэнне імпартных тарыфаў для беларускіх тавараў у сярэднім на 3-4%. Аднак такое павелічэнне неістотна і практычна не паўплывае на канкурэнтаздольнасць беларускіх тавараў, якія сёння экспартуюцца ў Еўропу з выкарыстаннем прэферэнцыйнага рэжыму.

**Антыдэмпінгавыя працэдуры.** На момант пашырэння Еўрапейскі саюз праводзіў антыдэмпінгавыя меры ў дачыненні да пяці беларускіх тавараў: хлорыстага калію (ПА "Беларуськалій",), поліэфірных штапельных валокнаў, поліэфірнага філаментнага жгута (Магілёўскае "Хімвалакно"), карбамідна-аміячнай сумесі і карбаміду (выраб Гродзенскага аб'яднання "Азот"). Дзеянні гэтых мер з траўня 2004 г. пашырыліся і на краіны 10-кі.

Польшча і прыбалтыйскія дзяржавы з'яўляюцца традыцыйнымі спажыўцамі беларускага хлорыстага калію. У Польшчы 90% спажыванага калію прывозілася з Беларусі, у Прыбалтыцы – да 100%. У выніку антыдэмпінгавых мерапрыемстваў страты Беларусі маглі скласці дзесяткі мільёнаў долараў. Аднак да моманту пашырэння пад ціскам сельскагаспадарчых асацыяцый краін-кандыдатак ЕС Еўрасаюз пайшоў на саступкі і ўвёў тарыфныя квоты на пастаўкі калію ў краіны 10-кі, памер якіх быў роўны сярэднестатыстычным аб'ёмам паставак за некалькі папярэдніх. Да паставак у межах гэтых квот Антыдэмпінгавыя меры не ўжываюцца.

Ужо пасля пашырэння, у ліпені 2004 г., у выніку актыўных дзеянняў беларускага МЗС былі зніжаны Антыдэмпінгавыя пошліны на карбамід (с 50% да 7,8%) і на хімічныя валокны і ніткі (з 43.5% да 21%).

**Адкрыццё ЕС рынку тэкстылю і адзення для краін-удзельніц СГА.** У барацьбе за выжыванне еўрапейскіх фірм у канкурэнцыі з краінамі Паўднёва-Усходняй Азіі і іншых развіваючыхся краін на рынку тэкстылю ЕС, па-першае, абмяжоўваў імпарт тэкстыльных тавараў на свой рынак, па-другое, іх вытворчасць еўрапейскія фірмы пераносілі ў краіны з таннай працай, у тым ліку і ў Беларусь. Каля 130 тыс. жанчын, у асноўным занятых у швейнай прамысловасці, выконваюць заказы еўрапейскіх фірм. І хаця выкананне замежных заказаў аплачвалася па нізкіх расцэнках, беларускія вытворцы зацікаўлены ў загрузцы прадпрыемстваў гэтымі заказамі.

Са сказанага вынікае, што канкурэнтаздольнасць беларускага тэкстылю на рынках ЕС будзе зніжацца паступова з яго адкрыццём. Гэтая канкурэнтаздольнасць сёння забяспечваецца ў асноўным нізкімі заробкамі рабочых. Усе праграмы росту заробку яшчэ больш знізяць канкурэнтаздольнасць беларускіх тэкстыльных тавараў.

**Выкарыстанне партнёрскіх сувязяў для прасоўвання тавараў на рынкі ЕС.** Пасля 1 траўня 2004 г. пастаўкі аўтамабіляў у краіны ЕС сталі нявыгаднымі:

**У цэлым дынаміка паказчыкаў беларускага экспарту ў краіны пашыранага Еўрасаюза паказвае тэндэнцыю выцяснення складанатэхнічных вырабаў з еўрапейскага рынку...**

увозная пошліна на транспартныя сродкі на рынак ЕС складае 15,4%, і чакаецца яе павелічэнне да 22%. Таму кіраўніцтва МАЗа імкнулася ствараць зборачную вытворчасць на будучай тэрыторыі ЕС – у Літве, Латвіі і Польшчы. Зараз у Рызе і Вільнюсе, куды з Мінска прывозяць камплектуючыя, на "МАЗы" пры зборцы ставяць рухавікі Deutz, мяняюць электроніку і тармазную сістэму. Пасля такога ўдасканалення МАЗ прайшоў сертыфікацыю па стандарту "Еўра-3". У планах літоўскага і латвійскага партнёраў МАЗа – грунтоўна падрыхтавацца да 1 студзеня 2006 г., даце, на якую еўрапейскія ўлады прызначылі паўсюдны пераход на стандарт "Еўра-4". (Па словах прэзідэнта латышскай кампаніі Alkom-Trans Аляксандра Крачака, "калі б машына прадавалася ў такім выглядзе, у якім прыходзіла з завода, то на працягу месяца пяць разоў яе вярталі б на прадпрыемства па гарантыйнаму рамонту" – "Белорусская деловая газета").

Такім чынам, прасоўванне беларускіх грузавікоў на рынкі пасля пашырэння ЕС пакуль нязначнае. Можна чакаць, што ў залежнасці ад росту УВП у краінах 10-кі, як і ў "старых" краінах ЕС, спажыўцы будуць набываць больш дарагую і больш якасную тэхніку. Таму доўгачасовых перспектыў у беларускіх аўтамабілебудаўнікоў у ЕС няма. Продаж трактараў Мінскага завода ў краіны 10-кі ў 2004 годзе скараціліся на 43% у параўнанні з 2003 годам. Скарачаецца экспарт у краіны ЕС-25 і іншых складанатэхнічных вырабаў.

**Тэхнічныя стандарты (развіццё бізнесу з дапамогаю Еўрасаюза).** Распаўсюджанне стандартаў ЕС на краіны 10-кі азначае павышэнне патрабаванняў да якасці беларускіх тавараў. Напрыклад, у 2004 г. польскія фірмы былі згодныя закупіць у 2004 годзе самазвалы МАЗ. Але зараз гэтыя самазвалы адпавядаюць стандарту "Еўра-2", а на Польшчу ўжо быў распаўсюджаны стандарт "Еўра-3". З-за больш нізкай якасці трактараў МТЗ пакупнікі ў новых краінах ЕС згодны набываць трактары МТЗ польскай зборкі.

Яшчэ прыклад. З пачатку 2005 г. польскія памежнікі пачалі выстаўляць больш высокія патрабаванні да тэхнічнага стану грузавікоў, якія ўязджаюць на іх тэрыторыю. Беларуская прэса паведамляла аб выпадках вяртання аўтацягнікоў, якія не прайшлі тэхнічны кантроль.

**Некаторыя вынікі.** Доля экспарту Беларусі ў новыя краіны ЕС у 2004 г. некалькі знізілася. Пасля 2001 г. гэтая доля знізілася і ў аб'ёме экспарту ў краіны далёкага замежжа, і ў аб'ёме экспарту ў ЕС, што сведчыць аб паступовым паслабленні знешнеэканамічных сувязяў з краінамі "дзесяткі", за выключэннем Польшчы.

У 2004 г. скараціўся экспарт у 10-ку складанатэхнічных тавараў. У 2004 г. практычна цалкам перапыніўся экспарт тэлевізараў, на 22% знізіліся пастаўкі халадзільнікаў, на 43% – трактараў, на 60% – грузавых аўтамабіляў. Мяркуецца, што будзе працягвацца падзенне экспарту трактараў у краіны ЕС, у тым ліку і тых, якія збіраюцца ў Польшчы. Паколькі Еўрасаюз падтрымлівае субсідыямі актыўных фермераў 10-кі і яны атрымліваюць магчымасць набываць больш дарагую і больш якасную тэхніку заходняй вытворчасці.

У цэлым дынаміка паказчыкаў беларускага экспарту ў краіны пашыранага Еўрасаюза паказвае тэндэнцыю выцяснення складанатэхнічных вырабаў з еўрапейскага рынку і павелічэння долі энерганосьбітаў, лесаматэрыялаў, калійных соляў і тавараў з невысокай дадатковай вартасцю. І гэты працэс пасля 1 траўня 2004 г. працягваецца.

*Яраслаў Раманчук, кіраўнік навуковага даследчыцкага цэнтра Мізеса АЦ "Стратэгія"*

# Праблемы еўра і манетарных саюзаў

**Уступленне ў грашовы саюз: неабходнасць ці даніна модзе.** Увядзенне еўра не вырашыла працяглай спрэчкі паміж еўраскептыкамі і еўрафіламі. Еўра цалкам можа выступіць у ролі інтэгратара адных працэсаў, эканамічных груп, а таксама ў ролі дэстабілізатара старых звычак выкарыстання манетарных інструментаў для вырашэння агульнасістэмных задач – стымулявання попыту, павелічэння інвестыцыйнай актыўнасці, нейтралізацыі хістанняў бізнес-цыклу і інш. Еўра стаў рэальнасцю, на якую Беларусь не можа зрабіць аніякага ўплыву. Таму неабходна даследаваць гэты аб'ектыўны фактар і зрабіць высновы для нашай нацыянальнай манетарнай палітыкі.

**Урок для Беларусі заключаецца ў тым, што еўра не можа замяніць сістэмныя рэформы эканомікі. Еўрапейскія эканамісты заяўляюць, што еўра можа правaліцца, калі ўрады і ЕС не пачнуць структурныя рэформы.**

**Як уступіць ў EMU.** Удзел у ЕС не прадугледжвае аўтаматычнага сяброўства ў Еўрапейскім манетарным саюзе (EMU). Задача ўступлення ў EMU інтэгруе краіны на адной грашовай платформе. Спіс макраэканамічных патрабаванняў для сяброўства ў EMU адкрываюць фінансавыя крытэрыі: устанаўленне гранічнага паказальніка дэфіцыту кансалідаванага бюджэту ў 3% УВП, а таксама валавая сукупная дзяржаўная пазыка ў памеры 60% УВП.

Крытэрый працэнтнай стаўкі: доўгачасовыя (10 гадоў) намінальныя працэнтныя стаўкі па дзяржаўнай пазыцы павінны знаходзіцца ў межах 2% розніцы ад сярэдняга паказальніка краін з лепшымі паказальнікамі па інфляцыі.

Крытэрый па інфляцыі: гадавая інфляцыя не можа перавышаць на 1,5% сярэдні паказальнік трох лепшых краін у плане паказальніка інфляцыі.

Крытэрый абменнага курсу: кандыдаты на ўступленне ў EMU павінны ўступіць ў пагадненне EMR-II. У калідоры 15% абменны курс павінен быць стабільным (без выкарыстання кантролю за капіталам і абменным курсам) на працягу 2 гадоў да ўступлення ў EMU.

Інстытуцыйны крытэрый: забеспячэнне незалежнасці цэнтральнага банка.

Выкананне большасці крытэрыяў знаходзіцца ў кампетэнцыі цэнтральнага банка і ўрада, але мэтавыя паказальнікі па інфляцыі і намінальных працэнтных стаўках накладваюць абмежаванні на рэальныя працэнтныя стаўкі, дакладна так жа, як намінальныя абменныя курсы і інфляцыя накладваюць абмежаванні на рэальныя абменныя курсы.

Калі пакінуць па-за межамі аналізу аргумент аб страце нацыянальнага манетарнага суверэнітэту, то выкананне вышэйпералічаных крытэрыяў, безумоўна, будзе мець інтэгруючы эфект у нашым рэгіёне.

Нягледзячы на тое, што колькасць фінансавых інструментаў, якімі можна гандляваць на знешнім рынку, застаецца абмежаваным, існуе небяспека рэзкага выцякання капіталу з любой з 10 краін, якія ўступілі ў ЕС у траўні 2004 г.

**Еўра – замацавальнік, а не замяняльнік.** Урок для Беларусі заключаецца ў тым, што еўра не можа замяніць сістэмныя рэформы эканомікі. Еўрапейскія эканамісты заяўляюць, што еўра можа правaліцца, калі ўрады і ЕС не пачнуць структурныя рэформы. І тут вымалёўваецца яго дэстабілізуючая роля. Нават калі Нацыянальны банк Беларусі даб'ецца зніжэння інфляцыі ў дзесяць разоў, у прадпрыемстваў больш грошай не стане, банкі не стануць раптам канкурэнтнымі на еўрапейскім фінансавым полі, а бюджэт не атрымае дадатковых бонусаў. Зніжэнне інфляцыі да 2–3% у год ці пераход на стабільную замежную валюту – гэта неабходная, але недастатковая ўмова для эканамічнага поспеху.

Стабільныя грошы не могуць самі па сабе знізіць узровень беспрацоўя і стварыць новыя працоўныя месцы. Уніфікацыя манетарных правілаў стварае ўмовы для больш ліквідных фінансавых рынкаў, для маніторынгу праблем і патэнцыяльна павялічвае канкурэнцыю. Усе краіны, якія хочуць уступіць у ЕС, павінны выканаць маастрыхцкія крытэрыі і пасля гэтага ўступіць у EMU. Для гэтага трэба на працягу двух гадоў паспяхова працаваць у механізме валютных курсаў (ERM-II). Гэты грашова-фінансавы тэст вытрымаць складана. Расія і Украіна арыентуюцца на еўрапейскія патрабаванні. Беларусі не трэба чакаць запрашэння, каб пачаць прыводзіць сваю эканамічную сістэму ў адпаведнасць з еўрапейскімі крытэрыямі.

**Стабільныя грошы не могуць самі па сабе знізіць узровень беспрацоўя і стварыць новыя працоўныя месцы. Уніфікацыя манетарных правілаў стварае ўмовы для больш ліквідных фінансавых рынкаў, для маніторынгу праблем і патэнцыяльна павялічвае канкурэнцыю.**

**Еўраскептыкі.** Кажучы аб поспеху еўра, не трэба забываць, што адбылася толькі фармальная замена аднаго плацёжнага сродку іншым, па сутнасці, пачаў ажыццяўляцца палітычны праект. Функцыі грошай ад гэтага не памяняліся. Ні немцы, ні французы, ні партугальцы ад гэтага багацей не сталі. Сусветныя рэзервы долара ў 5 разоў перавышаюць рэзервы еўра. Нельга параўноўваць еўра з лакаматывам эканамічнага росту, грошы не могуць выконваць гэтую ролю. Калі ўрады 12 краін еўразоны не пачнуць структурныя рэформы, не лібералізуюць рынак працы, не памяняюць неэфектыўную сельскагаспадарчую палітыку, не знізяць падатковы ціск і не скароцяць бюракратыю, то праз некалькі гадоў колькасць абвінавачванняў у правале еўрапейскай мадэлі і некампетэнтнасці Еўрапейскага цэнтральнага банка шматразова павялічыцца.

На думку еўраскептыкаў, галоўная праблема пры пераходзе на еўра – уніфікацыя працэнтных ставак у еўразоне. Праціўнікі еўра сцвярджаюць, што розныя тэмпы росту ў розных краінах, істотныя структурныя адрозненні патрабуюць розных працэнтных ставак. Палітыка "адзін памер для ўсіх" (one size fits all) будзе дэстабілізуючым фактарам. Ірландыя развіваецца хутчэй Германіі, але грошы для бізнесу будуць каштаваць аднолькава. Урады і нацыянальныя банкі 12 краін пазбавяцца магутнага інструмента для стымулявання попыту на грошы.

Вім Дуйсенберг, старшыня ЕЦБ, і яго калегі няўмольныя: у Цэнтральнага банка павінна быць толькі адна задача – стабільнасць цэнаў. І тут ёсць сур'ёзныя супярэчнасці паміж манетарнай і фіскальнай палітыкай у еўразоне. Адпаведна еўрапейскаму "Пакту стабільнасці і росту" ўрады павінны збалансаваць бюджэты і больш не жыць у пазыку, павялічваючы вартасць абслугоўвання пазыкаў. Пакуль ні адзін з урадаў не рашыўся на сур'ёзную фіскальную рэформу. У 2001 г. Германія практычна выйшла за 3-х працэнтны ліміт дэфіцыту бюджэту. У Італіі і Францыі ёсць праблемы з абслугоўваннем пазыкі. Ні адна краіна ў зоне еўра не

мае эканамічна рацыянальнай, не прыносячай стратаў сістэмы сацыяльнай абароны. Каб выканаць бягучыя абавязкі па пенсіях і сацыяльных трансфертах, Аўстрыя павінна павялічыць падаходны падатак на 55%, Францыя – на 64%, Германія – на 29%, Іспанія – на 45%, Італія – на 28%. Пры такой падаткавай нагрузцы ўцёкі капіталу з краін ЕС забяспечаныя. Спакуса зрабіць грошы танней будзе вельмі вялікай. Ці вытрымае Еўрапейскі цэнтральны банк палітычны ціск – адкрытае пытанне.

Бюракраты блакуюць перавагі еўра. Шмат хто лічыць, што адзіная валюта аўтаматычна прывядзе да адзінага рынку. У рэальным жыцці такога не бывае. Прэм'ер-міністр Брытаніі вызначыў 5 пытанняў, адказы на якія будуць мець вырашальнае значэнне пры разглядзе пытання аб уступленні яго краіны ў Еўралэнд: 1) ці сумяшчальныя бізнес-цыклы і эканамічныя структуры; 2) калі ўзнікнуць праблемы, ці будзе ўрад дастаткова гнуткім, каб іх вырашаць; 3) ці створыць уступленне ў Еўрапейскі манетарны саюз лепшыя ўмовы для доўгачасовага планавання брытанскіх фірм; 4) які ўплыў на фінансавы рынак Брытаніі будзе мець уступленне ў EMU; 5) ці будзе адзіная валюта спрыяць дасягненню высокіх тэмпаў росту, стабільнасці і стварэнню новых працоўных месцаў. Сёння Брытанія кажа "не" еўра і федэральнай Еўропе. І брытанцы, і шведы заяўляюць, што перавагі адзінай валюты блакуюцца бюракратычнымі, пратэкцыянісцкімі нацыянальнымі ўрадамі і Бруселем.

На думку вядомага брытанскага эканаміста Брыджыт Роўзвел, імперыялісты з Бруселя "імкнуцца захаваць вялікую дзяржаву і пасляваенны кансенсус. Яны вераць, што дзяржава можа вырашыць усе праблемы, дыктаваць усім парадак дня і знаходзіць правільную цану на правільным рынку. Па іроніі лёсу яны з'яўляюцца інтлектуальнымі спадкаемцамі прыхільнікаў цэнтралізаванага планавання Савецкага Саюза. Яны будуюць Еўрапейскую імперыю для закрытых, добра ўладкаваных элітаў".

**Еўрафілы.** Галоўны аргумент на карысць адзінай валюты – нейтралізацыя рызыкаў абменнага курсу. Па тэорыі, у зоне адзінай валюты павялічваецца канкурэнцыя, бо кошты становяцца празрыстымі. Гэта павялічвае эфектыўнасць доўгачасовага планавання. Калі б у еўразоне дзейнічалі адзіныя правілы, якія б вызначалі ўсе аспекты дзейнасці прадпрыемстваў, то адзіная валюта была б безумоўным плюсам. Але кошты на аўтамабілі, электраэнергію, іншыя тавары і паслугі, якія выпрабляюцца нацыянальнымі манаполіямі, у розных краінах па-ранейшаму будуць адрозніваца. Палітыка абменнага курсу не можа замяніць рэальныя змены ў эканамічнай сістэме. Еўраскептыкі пярэчаць: навошта дзеля празрыстасці ўводзіць новую валюту, калі інтэрнет робіць гэта нашмат танней і эфектыўней?

**Заходняя Беларусь – гэта не Заходняя Германія.** Урок Усходняй Германіі для краін ЦВЕ і Беларусі вельмі паказальны. Ні адна краіна ў свеце (можа, за выключэннем Паўднёвай Карэі) не гатова выкласці мільярды долараў ці еўра за інтэграцыю як палітычны праект. Ніхто не дазволіць перайсці на еўра па адміністрацыйным, заніжаным на карысць бедных краін курсе. Ніхто не будзе рэфармаваць за нас маральна і тэхналагічна састарэлую прамысловасць. Аб выроўніванні заробкаў, пенсій і сацыяльных трансфертаў гаворка ўвогуле не ідзе. Многія беларускія палітыкі чакаюць, што пры інтэграцыі з Расіяй Крэмль шчодра абдорыць Мінск "залатым" дажджом інвестыцый і датацыяў. Як і ўсходнія немцы, беларускія ўлады не думаюць аб прадукцыйнасці працы, сістэмных рэформах, якія б стварылі фундамент для доўгачасовага эканамічнага росту.

**Ніхто не будзе рэфармаваць за нас маральна і тэхналагічна састарэлую прамысловасць. Многія беларускія палітыкі чакаюць, што пры інтэграцыі з Расіяй Крэмль шчодра абдорыць Мінск "залатым" дажджом інвестыцый і датацыяў.**

Барацьба паміж еўрафіламі і еўраскептыкамі, федэраламі і канфедэраламі толькі пачынаецца. Зразумела адно: сам па сабе факт пераходу на еўра (расійскі рубель) ці на хаджэнне некалькіх паралельных валют не вырашаюць сістэмныя эканамічныя праблемы. Стабільныя грошы толькі ствараюць неабходнае цэнавае поле. Калі б ва Усходняй Германіі не было Заходняй, пераважна капіталістычнай часткі, яна б не атрымала і дзесятай часткі тых рэсурсаў, якія сёння працуюць у гэтым рэгіёне. На жаль, Заходная Беларусь, хоць і адрозніваецца ад Усходняй, але не можа служыць крыніцай інвестыцый і рэсурсаў. Адзін з галоўных урокаў гісторыі ўсходняй Германіі заключаецца ў тым, што інфляцыя да 3% у год – гэта не мэта эканамічнай палітыкі, а адна з умоў яе агульнага поспеху.

**Ні адна краіна ў свеце (можа, за выключэннем Паўднёвай Карэі) не гатова выкласці мільярды долараў ці еўра за інтэграцыю як палітычны праект.**

**Пяць тэстаў для еўра і для расійскага рубля.** Адмова афіцыйнага Мінска ад паралельнага хаджэння расійскага рубля ў Беларусі і, па сутнасці, ад увядзення адзінай валюты з 1 студзеня 2006 г. цалкам прагназуемыя. Пустая інтэграцыйная рыторыка ўжо даўно надакучыла. Вырашэнне эканамічных праблем пастаўлена ў залежнасць ад чыстай палітыкі. З аднаго боку, можна паспачуваць спецыялістам Нацбанка, якіх у чарговы раз "падставіла" палітычна кіраўніцтва. З іншага боку, яны шмат у чым самі вінаватыя, таму што не здолелі пераканаць А.Лукашэнку не ўвязвацца ў авантуру з расійскім рублём, а праводзіць самастойную манетарную палітыку. У 2004 годзе добры ўрок у плане пераходу на іншую валюту дала Вялікабрытанія. Урад Т.Блэра заявіў, што Брытанія выйграла ад таго, што захавала свой родны фунт стэрлінга і не перайшла на еўра.

**Пяць тэстаў Брытаніі.** Міністр фінансаў Брытаніі заявіў, што яго краіна і Еўразона (12 дзяржаў) знаходзяцца на розных стадыях эканамічнага цыкла. У Брытаніі больш высокія тэмпы эканамічнага росту. Брытанцы, у цэлым давяраючы свайму ўраду, дружна выступаюць супраць еўра (2/3 усяго насельніцтва). "За" выказваюцца 20–25%. Разглядзім падыход брытанскіх уладаў да вырашэння складанай манетарнай праблемы.

Урад вырашыў праверыць еўра па пяці тэстах. Яны павінны даць адказы на два пытанні: 1) якія праблемы створыць уступленне ў еўразону і ці зможа краіна пасля ўступлення спраўляцца з эканамічнымі крызісамі; 2) якія перавагі ўступлення ў еўразону, г.зн. ці атрымае краіна больш інвестыцый, ці створыць больш працоўных месц і, адпаведна, ці забяспечыць больш высокія тэмпы эканамічнага росту.

Тэст № 1 "Канвергенцыя". Грашовыя саюзы могуць прывесці да глыбокіх крызісаў, калі бізнес-цыклы і эканамічныя структуры ўступаючай краіны і еўразоны не супадаюць. У апошнія гады брытанская эканоміка працуе нашмат эфектыўней за краіны еўразоны. Яна бліжэй да амерыканскай, чым еўрапейскай. Пры ўступленні ў еўразону Брытанія пазбавіцца магчымасці рэгуляваць працэнтную стаўку, зыходзячы з патрэбаў свайго рынку. Таму Т.Блэер і Г.Браун пакуль не пры-

➲

маюць палітыку працэнтнай стаўкі, якую можна назваць "адзін памер для ўсіх".

Тэст № 2 "Гнуткасць". Краіны, якія ўступаюць у манетарны саюз, павінны быць "устойліва сумяшчальныя ў доўгачасовай перспектыве". Калі ў краіне здарыцца эканамічны крызіс, яна мусіць мець магчымасці і інструменты з ім справіцца. Сёння краіны еўразоны не могуць адолець беспрацоўе, вырашаўшы здзейсніць сур'ёзную лібералізацыю рынку працы. Брытанія хацела б бачыць прагрэс і ў структурных рэформах у Еўразоне, але прымаць рашэнні за ўрады Германіі, Францыі ці Італіі Т.Блэр, зразумела, не можа. Турбуе Т.Блэра і розніца ў ацэнцы інфляцыйнага патэнцыялу. Для нас у Беларусі такая асцярожнасць здаецца празмернай, але не будзем забываць, што гаворка ідзе аб адмове ад спрадвечных традыцый, што для брытанцаў (і тут мы зноў ад іх моцна адрозніваемся) вельмі няпроста. Такім чынам, і гэты тэст, на думку брытанскага ўраду, еўра не вытрымала.

**Адмова афіцыйнага Мінска ад паралельнага хаджэння расійскага рубля ў Беларусі і, па сутнасці, ад увядзення адзінай валюты з 1 студзеня 2006 г. цалкам прагназуемыя.**

Тэст № 3 "Інвестыцыі". Дадзены тэст можа даць станоўчы вынік толькі ў тым выпадку, калі паспяхова пройдзены тэст на канвергенцыю, таму і тут еўра атрымала "баранку". Пакуль прыкметаў адтоку замежнага капіталу і інвестыцый з Брытаніі не назіраецца. Лондан па-ранейшаму застаецца фінансавай сталіцай Еўропы, і, здаецца, ніводны іншы горад не можа ў аглядальнай будучыні кінуць яму выклік. Таму тэст на інвестыцыі еўра таксама не прайшоў.

Тэст № 4 "Фінансавыя паслугі". Гэта адзіны тэст, які атрымаў станоўчую ацэнку ўраду Т.Блэра. Для брытанцаў найважнейшым пытаннем з'яўляецца магчымасць захавання Лонданам свайго статусу фінансавай сталіцы рэгіёна. Большасць экспертаў схіляецца да думкі, што ў Еўразоне Лондан умацуе свае пазіцыі на рынку фінансавых паслуг. У немцаў былі спадзяванні на Франкфурт, але яны не спраўдзіліся ў кантэксце вельмі слабай працы фондавага рынку Германіі. Францыя і Італія таксама не могуць скласці вартую канкурэнцыю лонданскаму Сіці.

Тэст № 5 "Рост і занятасць". Рынак працы Брытаніі больш свабодны. Выдаткі прадпрыемстваў па ўтрыманні беспрацоўных і звальненні меншыя. Яны могуць больш свабодна наймаць на працу лю-дзей, не асцерагаючыся, што іх звальненні пагражаюць абярнуцца высокімі выдаткамі.

Адсутнасць гнуткага рынку працы, несумяшчальнасць бізнес-цыклаў дазволіла Г.Брауну негатыўна ацаніць вынікі гэтага тэсту.

**Падыход Беларусі да манетарнага саюза.** Да дакладу міністра фінансаў Брытаніі Г.Брауна была падрыхтавана больш за 2000 старонак аналітычных матэрыялаў, разлікаў. У дыскусіі ўдзельнічалі ўсе вядучыя аналітычныя цэнтры і СМІ. Падыход беларускіх уладаў да пераходу на чужую валюту надзвычайна адрозніваецца ад брытанскага. Ні Нацбанк, ні Саўмін РБ не вызначылі выразных крытэрыяў, пасля выканання якіх пераход на расійскі рубель быў бы выгодны нашай краіне. Замест тэставання розных сістэм Расіі і Беларусі ўлады аддаюць перавагу размовам аб сяброўстве народаў і інтэграцыі, прапаноўваючы пераважна палітычныя вырашэнні эканамічных праблем. Перамовы вяліся кулуарна, разлікі і ацэнка наступстваў вялася па-за кантэкстам публічнай дыскусіі.

Апрабуем брытанскія тэсты на беларуска-расійскім грашовым саюзе. Тэст на канвергенцыю, адзін з самых галоўных, выразна правальваецца. Бізнес-цыклы Беларусі і Расіі не супадаюць. Эканамічныя структуры і інстытуты нашых эканомік розныя. Больш за тое, сёння мы не можам сказаць, на якім этапе бізнес-цыклу мы апынемся пасля правядзення стабілізацыйных мер, прыватызацыі і лібералізацыі. Беларусі трэба, перад усім, стварыць умовы для правядзення тэсту на канвергенцыю, а толькі потым размаўляць аб пераходзе на цвёрдую валюту якой бы там ні было краіны. Тэст РФ і РБ на гібкасць таксама дае адмоўны вынік. Ні ў Расіі, ні тым больш у Беларусі не праведзены неабходныя структурныя рэформы. Таму няма падстаў казаць пра доўгачасовую сумяшчальнасць нашых эканомік. Вынік па тэсту "Інвестыцыі" дае аналагічную выснову. Сотні падпісаных паміж Расіяй і Беларуссю дамоў, фармальна існуючы саюз не здолелі забяспечыць нашаму ўсходняму суседу месца нават у тройцы вядучых замежных інвестараў у Беларусі.

**Увядзенне расійскага рубля ў першыя 2 – 3 гады прывядзе да імклівага росту спачатку схаванага, а потым і адкрытага беспрацоўя, да рэцэсіі беларускай эканомікі ў цэлым.**

Уваход Беларусі ў расійскі дзелавы клімат наўрад ці будзе гарантаваць нашай краіне прыцягненне неабходнага аб'ёму інвестыцый і мадэрнізацыі эканомікі. Казаць аб фінансавых паслугах паміж РБ і РФ заўчасна, бо дадзены тэст пакуль не прымяняльны для ацэнкі наступстваў манетарнага саюза паміж нашымі краінамі. Зразумела адно: расійскі фондавы рынак, правілы бухуліку і аудзіту, стандарты празрыстасці банкавага і фінансавага сектару Расіі далёкія ад міжнародных. Калі краіна, якая прапаноўвае сваю валюту ў якасці адзінай, сама не адпавядае базавым стандартам, то навошта ж браць з яе прыклад для пабудовы сваёй нацыянальнай эканамічнай мадэлі?

Нарэшце, тэст на занятасць і эканамічны рост паміж нашымі краінамі таксама дае адмоўны вынік. Расійскі рост забяспечваецца, у першую чаргу, нафтай і газам. Беларусь мае прырост за кошт адміністрацыйнай "каналізацыі" дзяржаўных інвестыцыйных рэсурсаў, працы на склад, часта ў шкоду самім прадпрыемствам. Спецыфічная методыка ўліку таксама падтрымлівае ілюзію росту. Казаць аб рынку працы ў Беларусі можна толькі ўмоўна.

Буйныя дзяржаўныя прадпрыемствы сталі своеасаблівымі агенцыямі па працаўладкаванні. Ім забаронена звальняць "лішніх" рабочых. Увядзенне расійскага рубля ў першыя 2–3 гады прывядзе да імклівага росту спачатку схаванага, а потым і адкрытага беспрацоўя, да рэцэсіі беларускай эканомікі ў цэлым. Расійскі рынак працы адчуе невялікі ціск ад беларускіх гастарбайтэраў, а вось на УВП РФ манетарны саюз наўрад ці адаб'ецца. У дадатак да сказанага дададзім, што Беларусь і Расія не з'яўляюцца аптымальнай валютнай зонай, што робіць эканамічныя аргументы на карысць манетарнага саюза з Расіяй яшчэ больш хісткімі.

Засмучае і легкадумнасць Расійскага ўрада. Будучы ўдзельнікам "Вялікай васьмёркі" трэба б дэманстраваць прыклад выразнага эканамічнага падыходу да грашовай палітыкі, а не карыстацца моднымі ідэалагемамі. Адмовіўшыся ад пераходу на расійскі рубель, А.Лукашэнка наўрад ці скарыстаўся досведам брытанцаў. Хістанні ў пытаннях грашовай інтэграцыі даказваюць, што ўрад РБ не ведае, што рабіць з нацыянальнымі грашыма, і таму ён небяспечны для беларускага бізнесу. Час бы навучыцца карыстацца сучаснымі эканамічнымі тэорыямі. Урок, які дае нам Вялікабрытанія, таксама вельмі карысны: зрабі сваю валюту цвёрдай, рынак – адкрытым, краіну – інвестыцыйна прывабнай – і колькасць жадаючых адмовіцца ад нацыянальных дасягненняў рэзка паменшыцца.

*Алена Ракава, кандыдат эканамічных навук, Даследчыцкі цэнтр Інстытута прыватызацыі і менеджменту*

# Беларуска-еўрапейскае эканамічнае супрацоўніцтва: учора, сёння, заўтра

**Уводзіны.** Беларусь мае ўнікальныя магчымасці росту, знаходзячыся паміж буйнейшымі сусветнымі рынкамі – вялізным рынкам новага ЕС з колькасцю насельніцтва больш за 450 млн. чалавек і растучым рынкам Расіі. Геаграфічнае размяшчэнне Беларусі прадвызначае важнасць аказання ёю транспартных і транзітных паслуг, у тым ліку і ў надзейным забеспячэнні ёю расійскага сыравіннага экспарту ў Еўропу. Аднак сучасная Беларусь знаходзіцца не толькі за межамі перамоўнага працэсу аб уступленні ў ЕС, не адпавядаючы нават фармальна крытэрыям сяброўства ў ЕС (эканамічным, палітычным, інстытуцыйным), яна фактычна знаходзіцца за межамі праграмы "Новыя суседзі".

**Найбольш буйнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі з ліку краін-удзельніц ЕС з'яўляюцца Германія (15% тавараабароту па-за СНД), Вялікабрытанія (12.7%), Нідэрланды (6.3%) і Італія (5.2%).**

Найбольш буйнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі з ліку краін-удзельніц ЕС з'яўляюцца Германія (15% тавараабароту па-за СНД), Вялікабрытанія (12.7%), Нідэрланды (6.3%) і Італія (5.2%). Новыя ўдзельнікі Еўрасаюза з'яўляюцца важнымі гандлёва-палітычнымі партнёрамі Беларусі. Удзельная вага Польшчы ў агульным аб'ёме тавараабароту Беларусі з краінамі па-за СНД складае 9.8%, Літвы – 5.2%, Латвіі – 4.9%, Венгрыі – 1.8%, Чэхіі – 1.5%, Эстоніі – 0.8%, Славакіі – 0.6%, Славеніі – 0.4%.

У структуры імпарту з краін-удзельніц ЕС пераважаюць пастаўкі абсталявання і механічных прылад, сродкаў наземнага транспарту, электрычных машын і абсталявання, палімерных матэрыялаў, пластмас і вырабаў з іх, іншых хімічных прадуктаў, інструментаў і апаратаў аптычных, фармацэўтычных вырабаў. Асноўнымі артыкуламі экспарту Беларусі ў ЕС з'яўляюцца паліва, мінеральныя прадукты перапрацоўкі нафты, тэкстыльныя вырабы і адзенне, драўніна і вырабы з яе, чорныя метал і вырабы з іх, інструменты і апараты аптычныя, мэбля.

Беларусь з'яўляецца адзінай усходнееўрапейскай краінай, якая не мае ратыфікаванага Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве з ЕС. Больш за тое, з-за парушэнняў у Беларусі правоў чалавека, адсутнасці дэмакратыі і вяршэнства закону, палітычныя кантакты ЕС і афіцыйных уладаў напружаны надзвычай.

**Уступленне ў ЕС: плюсы і мінусы.** Адным з палітычных пераваг уступлення ў ЕС многія краіны называлі пашырэнне зоны стабільнасці на іх тэрыторыю, умацненне іх міжнародных і эканамічных пазіцый. Многія краіны баяліся паўтарэння чэшскага ці польскага досведу 60-80 гг. XX веку, калі іх адхіленні ад савецкага шляху развіцця нішчыліся ўсімі магчымымі сродкамі, уключаючы вайсковыя. У цяперашні час ваенная пагроза ў Еўропе не ўяўляецца сур'ёзнай, аднак увахо-джанне ў адзіную сістэму еўрапейскай бяспекі па-ранейшаму актуальнае. Яшчэ большую каштоўнасць уяўляюць гарантыі абароны правоў і свабод чалавека.

Адзін з важных фактараў уступлення ў ЕС – магчымасць атрымання фінансавых датацыяў з структурных фондаў ЕС, якія вылічваюцца сотнямі мільёнаў еўра.

Аднак акрамя відавочных выгодаў, уступленне ў ЕС нясе ў сабе патэнцыйныя пагрозы і адмоўныя ўздзеянні. Так, з сяброўствам у ЕС звязана частковая страта суверэнітэту. Гэта датычыць мытнай і гандлёвай палітыкі, сельскагаспадарчай, энергетычнай палітыкі, тэхнічных і экалагічных нормаў і г.д. Вырашэнне адпаведных пытанняў пераходзіць ад нацыянальных органаў да органаў ЕС, часцяком звужаючы прастору для прасоўвання нацыянальных інтарэсаў асобных дзяржаў у пэўных галінах.

У апошні час новыя краіны-ўдзельніцы ЕС (Польшча, Чэхія, краіны Балтыі) нязначна знізілі тэмпы свайго эканамічнага росту (з 6-8% у год да 2-3%). На думку некаторых эканамістаў, бягучае зніжэнне тэмпаў развіцця звязана з выкананнем дарагіх норм acquis. Гарманізацыя заканадаўства новых краін-удзельніц і выкарыстанне новых стандартаў скарачае канкурэнтаздольнасць многіх вытворцаў, асабліва, малых і сярэдніх прадпрыемстваў (робячы іх вырабы больш дарагімі, а падаткавы цяжар – больш высокім).

Яшчэ адной патэнцыйнай праблемай можа стаць адсутнасць адзінага бачання будучыні ЕС паміж самімі ўдзельнікамі саюза. Федэрацыя ці канфедэрацыя, механізмы размеркавання вялізнага бюджэту, датацыяў і субсідыяў, стасункі паміж новымі і старымі ўдзельнікамі хаваюць у сабе шмат падводных камянёў. Адсутнасць адзіных стандартаў для ўсіх краін-удзельніц саюза (напрыклад, патрабаванняў да бюджэтнай палітыкі – Германія і Францыя другі год не выконваюць Маастрыхтскія крытэрыі аб велічыні бюджэтнага дэфіцыту не больш за 3%) і шмат іншага ствараюць напружанасць у адносінах паміж багатымі і беднымі краінамі, паміж новымі і старымі ўдзельнікамі.

З вялікай вастрынёй перад ЕС паўстануць пытанні інстытуцыйнага характару, перад усім, пытанне аб размеркаванні галасоў пры пашырэнні кола сваіх удзельнікаў у Радзе ЕС і Еўрапарламенце. Калі захаваць прынцып размеркавання ў адпаведнасці з доляй краін у насельніцтве ЕС, то з часам усходняя складаючая інтэграцыйнай групоўкі будзе ў значнай ступені ўплываць на працэс прыняцця палітычных рашэнняў. У выпадку размеркавання галасоў адпаведна эканамічнаму патэнцыялу краіны паўнамоцтвы будуць сканцэнтраваны ў руках буйнейшых удзельнікаў, што замацуе дамінаванне асобных удзельнікаў і прывядзе да павелічэння няроўнасці ўнутры групоўкі. У любым выпадку, Еўрасаюз стане менш рухомым у прыняцці рашэнняў, а выпрацоўка кампрамісаў будзе патрабаваць большых намаганняў.

Уяўляецца сумніўным магчымасць правядзення палітыкі салідарнасці ў тым аб'ёме і формах, у якіх яна праводзілася ў ЕС раней. Палітыка салідарнасці з'яўляецца адным з асноўных прынцыпаў усёй еўрапейскай інтэграцыі. Яе інструментамі з'яўляюцца так званыя структурныя фонды і фонд з'яднання, якія фарміруюцца шляхам жорсткага замацавання за імі вызначанага працэнту бюджэту ЕС (1.27% сукупнага УВП краін-удзельніц). За кошт рэсурсаў структурных фондаў аказвалася падтрымка краінам з найменшымі паказальнікамі УВП на душу насельніцтва – Грэцыі, Ірландыі, Іспаніі і Партугаліі. Зараз грошы пацякуць у іншым накірунку – у Славакію, Польшчу, краіны Балтыі. Менавіта магчымасць атрымання шматлікіх бюджэтных субсідыяў і сельскагаспадарчых датацыяў часткова тлумачыць жаданне многіх краін уступіць у ЕС, паколькі, у большасці выпадкаў, новыя ўдзельнікі нашмат бяднейшыя за старых і разлічваюць такім чынам палепшыць свой

**Беларусь з'яўляецца адзінай усходнееўрапейскай краінай, якая не мае ратыфікаванага Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве з ЕС.**

➲

дабрабыт.

Самыя няроўныя ўмовы па атрыманні трансфертаў з бюджэту ЕС будуць для фермераў. Адзіная сельскагаспадарчая палітыка ЕС ужо сёння паглынае 50% яганага бюджэту. Уцягванне ў аграрную палітыку ЕС канкуруючых сельгасвытворцаў рэзка павялічыць нагрузку на бюджэт Саюза і "размые" субсідыі аграрнага фонда па нашмат большай тэрыторыі, ствараючы дадатковыя канфлікты. Так, на працягу першага года фермеры ў новых краінах атрымліваюць 25% сельскагаспадарчых субсідый ад узроўню заходніх фермераў. Толькі пасля 10 гадоў усе фермеры атрымліваюць аднолькавы статус і памер датацый. Такая перспектыва з'яўляецца надзвычай невыгоднай для такіх аграрных краін як Польшча, Венгрыя, Славакія, якія спрабуюць атрымаць дадатковыя ўмовы. У сувязі з гэтым некаторыя прадстаўнікі ЕС адкрыта кажуць не проста аб гандлі паміж краінамі – старымі ўдзельнікамі і новымі, але і магчымасцях закуліснай барацьбы з фарміраваннем кааліцый "пакрыўджаных" краін.

Нягледзячы на фармальнае заканчэнне большасці перамоў і афіцыйнае ўступленне новых удзельнікаў у ЕС, сама Еўракамісія ў сваіх дакументах адзначае наяўнасць буйных заганаў і прабелаў у практычным выкананні дамоўленасцяў па стварэнні адзінай эканамічнай прасторы. Так, для многіх краін і ў многіх раздзелах прадугледжаны пераходныя перыяды, якія часцяком датычаць важных праблем. Напрыклад, у раздзеле "Свабоднае перамяшчэнне людзей" прадугледжаны сямігадовы пераходны перыяд для свабоднага перамяшчэння працоўнай сілы з Усходу на Захад. Гэта значыць, што грамадзяне новых краін ЕС не змогуць свабодна накіроўвацца на пошукі працы ў заходнія краіны. У той жа час па патрабаванні краін-кандыдатаў устаноўлены пераходны перыяд у раздзеле "Свабоднае перамяшчэнне капіталаў". Новыя ўдзельнікі ЕС баяцца наплыву пакупнікоў сельскагаспадарчых зямель і ўчасткаў для лецішчаў з боку заможных заходніх суседзяў. Адзначаецца праблематычнасць выкарыстання ў поўным аб'ёме раздзела "Свабодная канкурэнцыя" з-за непадрыхтаванасці многіх краін адмовіцца ад дзяржаўнай падтрымкі некаторых галінаў. Не падрыхтаваныя ўдзельнікі ЕС і да ўвядзення высокіх ставак ПДВ, напрыклад, на тытунёвыя вырабы, якія зараз у ЕС у некалькі разоў даражэйшыя, чым ва Усходняй Еўропе. Доўгачасовыя пераходныя перыяды прадугледжаны і для лібералізацыі энергетычнага рынку, дзе насельніцтва чакае павелічэння тарыфаў і закрыцця неэфектыўных электрастанцый.

Не засяроджваючыся падрабязна на аналізе "падводных рыфаў" пашыранага ЕС, адзначым толькі, што, на думку многіх і еўрапейскіх чыноўнікаў, і незалежных экспертаў, патрэбна не менш за 20 гадоў, каб дзесяць новых краін дасягнулі сярэдняга эканамічнага ўзроўню старых удзельнікаў ЕС. А складаны фінансавы стан і эканамічны крызіс у буйнейшых краінах-донарах ЕС – Германіі і Францыі – будуць вымушаць значна скарачаць аб'ёмы фінансавай дапамогі новым удзельнікам і краінам-кандыдатам. Выйгралі ж ці прайгралі 8 краін, якія ўступілі у ЕС у 2004 г., і сам Еўрасаюз ў цэлым, стане зразумела толькі як міне пэўны час.

**Выйграе ці прайграе Беларусь ад новага суседства, будзе залежаць ад таго, наколькі краіна здолее адаптаваць сваю эканамічную палітыку да новых эканамічных рэаліяў.**

**Пашыраны ЕС: плюсы і мінусы для Беларусі.**

Пашырэнне ЕС – ужо рэальны факт. Вядома, гэта пацягне за сабой шматлікія каротка- і доўгатэрміновы эфекты, частка з якіх будзе станоўча ўплываць на эканамічнае развіццё краіны, а частка будзе мець негатыўныя ўздзеянні. Уяўляецца, што ўсе негатыўныя моманты носяць хутчэй кароткачасовы характар і, калі ўсе бакі зацікаўленыя ў гэтым, іх дастаткова лёгка паменшыць ці ліквідаваць у працэсе перамоў і пачатку эканамічных і палітычных пераўтварэнняў у Беларусі. У той жа час, пазітыўныя эфекты носяць хутчэй сярэднетэрміновы і доўгачасовы характар.

Выйграе ці прайграе Беларусь ад новага суседства, будзе залежаць ад таго, наколькі краіна здолее адаптаваць сваю эканамічную палітыку да новых эканамічных рэаліяў, пачынаючы і інтэнсіфікуючы рынкавыя рэформы і змены ў эканамічнай і палітычнай сістэме. Акрамя ж Беларусі з ЕС зараз мяжуе і Калінінград (Расія), і Украіна, і Малдова, якія, безумоўна, захочуць прывабіць у свае краіны як мага больш капіталу, прапаноўваючы інвестарам больш прадказальны і камфартабельны рынкавы асяродак.

**Акрамя відавочных выгодаў, з уступленнем у ЕС звязана частковая страта суверэнітэту. Гэта датычыць мытнай і гандлёвай палітыкі, сельскагаспадарчай, энергетычнай палітыкі, тэхнічных і экалагічных нормаў і г.д.**

По некаторых дадзеных, 80% грузавых аўтатранспартных сродкаў, якія перасякалі польскую мяжу ў 2002 г. везлі нешта для продажу ў Польшчы. Больш жорсткія рэжымы ўезду ў Польшчу з кастрычніка 2003 г. ужо прывялі да значнага зніжэння колькасці перасячэння мяжы. Зніжэнне чаўночнага і памежнага гандлю ўдарыць і па паляках, і па беларусах, якія жывуць у памежных раёнах. Зніжэнне гандлёвай актыўнасці будзе мець негатыўныя наступствы для беларускага рынку працы, бо многія беларусы, працуючыя на сезонных ці часовых працах у Польшчы, зараз сутыкнуцца з больш жорсткімі патрабаваннямі і будуць вымушаны вярнуцца на радзіму. У сваю чаргу, беларускі рынак працы адчуе пэўны ціск і рост сацыяльнай напружанасці, бо існуючая эканамічная палітыка ўнутры Беларусі не спрыяе стварэнню новых працоўных месцаў і прадастаўленню працоўных месцаў усім беспрацоўным.

Беларусь – ЕС. Важнасць еўрапейскага накірунку ў эканамічнай, палітычнай, культурнай сферы для Беларусі практычна нікім не аддаецца сумненню. Пры гэтым сёння перад Беларуссю, з прычыны пэўных геапалітычных, геаграфічных, эканамічных фактараў стаіць задача вырашэння праблемы "сутыкнення інтэграцый". Пабудова Саюзнай дзяржавы з Расіяй, адзіная эканамічная прастора, ЕўрАзЭС, уступленне ў СГА і Еўрасаюз – усё гэта магчымыя выбары, частка з якіх супярэчыць адно аднаму.

Будаваць еўрапейскую дзяржаву сёння (разумеючы тут наяўнасць дэмакратычных інстытутаў і рынкавай эканомікі) можна і не ўступаючы ў ЕС. Беларусь валодае статусам суседа, што дазваляе ёй дамагацца ў стасунках з ЕС чатырох свабодаў – свабоды перасоўвання тавараў, паслуг, капіталу, людзей. Уяўляецца мэтазгодным запазычанне ці прывядзенне ў адпаведнасць з еўрапейскімі нормамі еўрапейскага заканадаўства аб кампаніях і канкурэнтнай палітыцы. І, у сярэднетэрміновай перспектыве, у ідэале, – падпісаць пагадненні аб зоне свабоднага гандлю ці мытным саюзе. Акрамя таго, Беларусь можа выступаць як стратэгічны калідор у межах супрацоўніцтва Расіі і Еўрасаюза, у першую чаргу, забяспечваючы надзейны транзіт паміж двума растучымі рынкамі. Пры гэтым неабходна данесці да ўсіх груп беларускага грамадства выразнае разуменне таго, што ў выпадку паспяховых палітычных і эканамічных рэформ, еўрапейская будучыня для беларускага грамадства магчымая і рэальная.